УДК 821.161.3-3
ББК 64 (4 Беи)
Л88

**Лыч Леанід**
Л88 Русіфікацыя: царская, савецкая, прэзідэнцкая / Леанід Лыч. — Львоў : ВолЯ, 2010. — 72 с.

У кнізе паказаны міжнародны характар дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі на Беларусі ў перыяд знаходжання яе пад уладай Расійскай імперыі, у складзе СССР і ва ўмовах нацыянальнай незалежнасці, раскрываецца негатыўнае ўздзеянне такой палітыкі на захаванне этнакультурнай самабытнасці беларускага народа.

Рэкамендуецца ўсім, каго цікавяць прычыны дэнацыяналізацыі духоўнага жыцця карэннага насельніцтва Беларусі ў мінулым і на сучасным этапе.

© Лыч Леанід, 2010

## ЦАРСКАЯ

Звычайна прынята лічыць, што пачатак русіфікацыі нашага краю паклала гвалтоўнае далучэнне яго ўсходніх земляў да Расійскай імперыі ў выніку праведзенага ў 1772 годзе першага падзелу Рэчы Паспалітай. З такім поглядам нельга пагадзіцца, бо карані русіфікацыі ідуць на некалькі стагоддзяў глыбей у нашую гісторыю. «Вінаватыя» ў гэтым няўдалыя войны Рэчы Паспалітай у XVI–XVIII стагоддзях з Масквою, у выніку якіх да апошняй адышло нямала беларускіх этнічных земляў Смаленшчыны, Браншчыны, Пскоўшчыны і Чарнічаўшчыны. Пра захаванне этнічнага «я» іх беларускага насельніцтва ніхто не паклапаціўся.

Жыццё так склалася, што вольнымі ад рускага ўплыву не заставаліся і ўсходнеславянскія землі самой Рэчы Паспалітай. Усяляк стараліся пра гэта Маскоўскі патрыярхат і залежная ад яго Магілёўская (Беларуская) праваслаўная епархія. Хаця яна знаходзілася ў межах Рэчы Паспалітай, усё ж у царкоўных пытаннях даводзілася арыентавацца на Маскоўскі патрыярхат, у чым апошні меў вельмі вялікую зацікаўленасць. З 1685 года ён стаў прызначаць магілёўскіх епіскапаў, звычайна вялікай прыхільнасці да Масквы. У набажэнстве епархія карысталася пераважна літаратурай маскоўскага выдання, бо друкарні ВКЛ пераключыліся на выпуск у асноўным польска- і лацінамоўных кніг. Прычым ва ўзнікненні сур'ёзных цяжкасцяў з забеспячэннем патрэб Магілёўскай епархіі царкоўнай літаратурай у старабеларускай мове вінавата сама Расійская дзяржава, бо менавіта яе войскі ў час самай кровапралітнай вайны з Рэччу Паспалітай (1654–1667) дэманціравалі асноўны цэнтр беларускага кірылічнага кнігадрукавання — Куцеінскую друкарню (знаходзілася на тэрыторыі Куцеінскага Багаяўленскага манастыра ў прыгарадзе Оршы), вывезшы яе абсталяванне ў Іверскі Валдайскі манастыр пад Ноўгарадам.

Для ўмацавання пазіцый рускага пачатку ў дзейнасці Магілёўскай праваслаўнай епархіі многае зрабіў у 1755–1795 гадах епіскап Георгій Каніскі. Сваёй адкрыта прарускай пазіцыяй у арганізацыі царкоўнарэлігійнага жыцця на тэрыторыі епархіі нажыў сабе шмат ворагаў, таму, баючыся расправы, падаўся ў 1768 годзе ў Смаленск і адтуль кіраваў царкоўнымі справамі на ўсходніх землях Беларусі. Знаходжанне ў гэтым

горадзе зрабіла магілёўскага архіепіскапа яшчэ большым прыхільнікам прарускай палітыкі Маскоўскай патрыярхіі ў дачыненні да праваслаўных вернікаў ВКЛ. Ён прыкладаў шмат намаганняў дзеля «пашырэння рускай пісьменнасці на Беларусі… прапагандаваў ідэю аб'яднання беларускага народа з рускім і ўкраінскім»[1], што, несумненна, зрабіла б вельмі праблематычным захаванне этнакультурнай самабытнасці першага і трэцяга з названых народаў, паколькі афіцыйныя ўлады Рускай дзяржавы разглядалі іх як адгалінаванні рускага племені і таму клапаціліся б толькі пра яго духоўнае развіццё.

Бездакорна выконваў волю Маскоўскага патрыярхату, як толькі мог шырыў рускі ўплыў на Беларусі праваслаўны царкоўны дзеяч выпускнік Кіеўскай духоўнай семінарыі Віктар Садкоўскі. У 1784 годзе ён атрымаў пасаду архімандрыта ў Слуцку з яго багатымі беларускімі этнакультурнымі традыцыямі. У адрозненне ад праваслаўнага святарства самых усходніх раёнаў Рэчы Паспалітай тут многія з папоў падчас службы карысталіся і беларускай мовай, што не падабалася новаму архімандрыту, якога неўзабаве прызначалі намеснікам мітрапаліта кіеўскага са знаходжаннем у Слуцкім Свята-Троіцкім манастыры. У 1789 годзе В. Садкоўскага прызналі за агента рускага ўрада і зняволілі ў Нясвіжскі замак.

І ўсё ж любыя спробы распаўсюджвання рускага духу ў нашым краі, галоўным чынам праз праваслаўную царкву, не ўяўлялі сур'ёзнай пагрозы для яго насельніцтва. Непараўнальна лепшыя ўмовы для гэтага склаліся пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе. Імператрыца Кацярына ІІ, пры якой адбылася гэтая гвалтоўная акцыя, была крайне зацікаўлена хутчэй давесці ў культурна-моўным, рэлігійным планах насельніцтва далучаных ад ВКЛ земляў да рускага стандарту, каб даказаць Еўропе, што яно не ёсць нейкім самабытным, адрозным ад рускіх народам. Ужо ў 1772 годзе імператрыца распарадзілася «все дела производить на российском языке». У маі наступнага года Кацярына ІІ падпісала Наказ «Аб заснаванні ў Беларускіх губернях губернскіх і правінцыйных земскіх судоў», якім таксама строга прадпісвалася карыстацца ў справаводстве толькі рускай мовай. Раней жа на тэрыторыі ВКЛ ва ўсіх відах службовага справаводства дакументы складаліся на польскай мове, бо беларускую ўлады Рэчы Паспалітай пазбавілі такой важнай функцыі яшчэ ў 1696 годзе.

[1] Мысліцелі і асветнікі Беларусі. X–XIX стагоддзі. Энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1995. — С. 219.



Шкодную практыку польскіх палітыкаў царская Расія паўтарыла з адной адзінай мэтай: праз рускую мову ў службовым справаводстве рашуча расправіцца з польскай, ні ў якім разе не дапускаючы вяртання сюды і беларускай, што непазбежна прывядзе да поўнай яе незапатрабаванасці ў грамадстве і ў канчатковым выніку — да адмірання. Усё гэта не назавеш іншым словам, як адкрытая прымусовая русіфікацыя.

У правядзенні такой варожай для насельніцтва захопленых тэрыторый палітыкі поўнае паразуменне існавала паміж свецкай і духоўнай уладамі. Іншым разам апошняя выяўляла нават большую актыўнасць за першую. Імперскіх палітыкаў цалкам задавальняла русіфікатарская дзейнасць ужо раней згаданай высокай праваслаўнай асобы В. Садкоўскага. Стаўшы ў 1793 годзе (г. зн. праз год пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай) архірэем Мінскай праваслаўнай епархіі, ён паралельна займаўся і выкананнем рэлігійных абавязкаў, і правядзеннем русіфікацыі. У час аднаго з выступленняў перад святарамі Слуцка ён заклікаў іх размаўляць толькі па-руску. Ведаючы, што дамагчыся такога будзе не зусім лёгка, ён ужыў да рэальных непаслушэнцаў такія пагрозлівыя словы: «Я вас выкараню, вынішчу, каб і мовы не было вашай праклятай літоўскай (беларускай. — *Л. Л.*) і вас саміх. Я вас у ссылкі парассылаю або у салдаты пааддаю, а сваіх з-за кардона панаваджу»[1]. Такой пагрозы не ўдавалася мне сустрэць у літаратурных крыніцах пра змаганне польскага каталіцкага касцёла з беларушчынай. Вось і гадай-думай, хто да яе быў больш агрэсіўным — каталіцызм польскага ці праваслаўе рускага ўзораў.

З вышэйвыкладзенага нескладана прыйсці да высновы, што першыя крокі па ўкараненні рускага духу на захопленых беларускіх землях скіроўваліся пераважна супроць усталяванага тут зусім не мірным шляхам польскага ўплыву. Беларускі інтарэс парушаўся ў асноўным толькі ў тых выпадках, калі духоўныя і свецкія ўлады Расійскай імперыі рабілі захады па выкараненні тут уніяцкай царквы, у дзейнасці якой, нягледзячы на палітыку паланізацыі, усё ж прысутнічаў беларускі пачатак. Датычыла гэта і выкарыстання беларускай мовы ў набажэнстве некаторых уніяцкіх цэркваў, у практыцы прыналежных ім навучальных устаноў.

Як і разлічвалі царскія ўлады, у выніку тэрмінова праведзеных імі адміністрацыйных захадаў у сферы моўнай палітыкі да самастойнага і арганізаванага вывучэння рускай мовы гужам пацягнуліся шырокія колы

[1] Цыт. паводле: Краязнаўчая газета. — 2008. — № 9 (сакавік).

мясцовага чынавенства. Ад гэтага часу той з беларусаў, хто жадаў займаць пасады ў расійскіх дзяржаўных, адміністрацыйных, судовых органах на Беларусі, пачаў глядзець як на сваю родную, так і на польскую мовы, як на нейкую непатрэбшчыну, стараўся хутчэй забыцца на тое, да чаго прывык з маленства. Цяпер для такіх людзей першаступеннае значэнне набывала авалодванне дзяржаўнай расійскай мовай як мовай жаданай кар'еры.

Можна толькі пазайздросціць, з якой настойлівасцю і ўпартасцю цэнтральныя органы імперыі стваралі на беларускай зямлі расійскую сістэму народнай адукацыі. Ля яе вытокаў стаяла ўсё тая ж самая імператрыца Кацярына II. Прыбраўшы ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) да сваіх рук амаль усе беларускія землі, яна паставіла мэтай дзяржаўнай палітыкі ліквідаваць тут усё, што адрознівала іх насельніцтва ад рускіх. Дасягнуць гэтага збіраліся — і не памыліліся — галоўным чынам з дапамогай адпаведнай сістэмы адукацыі. У краінах Еўропы яшчэ задоўга да першага дэмантажу Рэчы Паспалітай добра ведалі, што найлепшым інструментам асіміляцыі народаў з'яўляецца пабудаваная на чужым для іх матэрыяле сістэма адукацыі. На інкарпараваных Расіяй землях адукацыя мела лаціна-польскае аблічча і па ўплыве на маладыя пакаленні ў шмат разоў перасягала прысутнасць беларускасці ў навучальных установах грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы. У планах Расіі не стаяла захаванне і адной і другой сістэм адукацыі, бо меркавалася стварыць падобную той, што існавала на рускай этнічнай тэрыторыі. У цэнтральных органах улады Расійскай імперыі разумелася, што дамагчыся такога будзе зусім не лёгкай справай. Па-першае, з-за трывалых пазіцый лаціна-польскага фактару ў сферы адукацыі, па-другое — з-за адсутнасці ў дзяржаўнай казне патрэбных грашовых сродкаў на арганізацыю жаданай колькасці рускамоўных навучальных устаноў. Аднак нягледзячы на гэтыя неспрыяльныя акалічнасці ўжо ў 1780 годзе ў Полацкай губерні ў 7 пачатковых рускіх школах навучалася 856 дзяцей, у Магілёўскай адпаведна — 32 і 956.

Дзейнасць нанова створанай мясцовай адміністрацыі, якая ад першых дзён свайго існавання насіла выразна акрэслены прарускі характар, істотна актывізавалася ў галіне асветы пасля таго, як урад Расіі стварыў у 1782 годзе адмысловую «Камісію па арганізацыі народных вучылішчаў». У адпаведнасці з распрацаваным ёю ў 1786 годзе статутам у губернскіх гарадах Беларусі засноўваліся рускія галоўныя народныя вучылішчы, а ў меншых паводле памераў гарадах — рускія малыя народныя вучылішчы. Іх адкрыццё адбывалася надзвычай урачыста, каб паказаць людзям клопат дзяржавы пра развіццё школьнай справы на далучанай да Расіі тэрыторыі. Калі 15 сакавіка 1789 года ў Магілёве адкрывалі першае на Беларусі галоўнае вучылішча, дык у мясцовым праваслаўным храме самім архіепіскапам Георгіем Каніскім ладзілася ўрачыстая служба. Ён жа ўзначаліў хрэсны ход з храма ў вучылішча, дзе з нагоды адкрыцця апошняга быў зачытаны Імперскі наказ, затым адслужаны малебен. На першым часе ў вучылішчы працавалі толькі прысланыя з цэнтральных рускіх губерняў настаўнікі. Роўна праз месяц такое ж вучылішча адкрылі ў Полацку. Добры знаўца гісторыі народнай адукацыі А. Бялецкі назваў іх «першымі чыста рускімі (падкрэслена намі. — *Л. Л.*) вучылішчамі». Яны «мелі цалкам такую ж арганізацыю, якую мелі і вучылішчы ўнутранай Расіі». У гэтага ж аўтара — вялікага прыхільніка русіфікатарскай палітыкі — знаходзім і такое ўзнёслае выказванне: «…па волі імператрыцы запаліліся на Беларусі новыя вогнішчы народнай рускай адукацыі»[1]. Хочацца дадаць, што са шчаслівай рукі Кацярыны II яны і сёння спрэс палаюць на беларускай зямлі чарнобыльскім агнём. Цалкам адпавядалі назве «рускія» і ствараемыя праваслаўнай царквою навучальныя ўстановы.

Мясцовым уладам у значнай ступені ўдавалася ўкараніць рускі дух і ў каталіцкую адукацыю, аслабляючы гэтым яе лаціна-польскі ўплыў на моладзь. У правядзенні такой палітыкі яны нават дамагліся істотнай падтрымкі ад езуітаў. Са згоды апошніх у іх калегіумах вывучалася руская мова, на ёй выкладалі па тых жа самых падручніках, як і ў рускіх школах, рускую гісторыю і геаграфію.

Намнога больш клопатаў прыбавілася Кацярыне II і яе ўраду па ўтаймаванні польскага ўплыву на далучаных да Расіі беларускіх землях пасля другога (1793) і трэцяга (1795) падзелаў Рэчы Паспалітай. Тут паланізацыя запусціла ў глебу непараўнальна больш глыбокія карані, чым на ўсходняй тэрыторыі ВКЛ. Тая частка людзей, якая звычайна займалася на гэтых землях у нашым краі пытаннямі кіравання грамадствам, навучаннем моладзі ў рускіх школах, вяла багаслужбу ў праваслаўных храмах, не валодала ні беларускай, ні польскай мовамі. Выключэнне складалі толькі святары грэка-каталіцкай царквы і уніяцкіх школ, да канца не адарваныя ад беларускіх культурна-моўных традыцый. Таму новым гаспадарам гэтых беларускіх земляў давялося насуперак сваёй волі на пэўны час пагадзіцца

[1] Белецкий А. Заботы императрицы Екатерины II о распространении образования в Полоцкой и Могилевской губерниях. — Вильно, 1906. — С. 2.

з прысутнасцю тут польскага духу. На яго карысць пайшло цараванне Паўла I (1796–1801) і Аляксандра I (1801–1825), якія ў адрозненне ад сваёй папярэдніцы Кацярыны II былі не так варожа настроены супраць усяго польскага. Затое з ім ніяк не мірылася Руская праваслаўная царква, лічачы, што толькі яна павінна займаць у межах былога Вялікага Княства Літоўскага панавальнае становішча ў рэлігійным жыцці сваіх колішніх духоўных «братоў», гвалтам і падманам адлучаных каталіцкімі і уніяцкімі святарамі ад сваёй спрадвечнай праваслаўнай веры. Заўважнага поспеху ў абмежаванні ролі уніяцкай царквы духоўным уладам удавалася дамагчыся не ў малой ступені таму, што перацягнуць на свой бок яе вернікаў усяляк стараўся і польскі касцёл, для чаго ў яго было дастаткова вопыту, назапашанага ў мінулыя гады. Ваяваць на два франты ва уніяцтва не мелася рэальнай сілы. Амаль усе заможныя станы яго ўжо даўно апынуліся на баку пальшчызны, а шараговыя вернікі як след не маглі супрацьстаяць ні папам, ні ксяндзам. Усё ж нягледзячы на двухбаковае абкраданне уніяцкай царквы яна працягвала жыць, захоўваючы беларускасць, хоць і моцна абкарнаную.

З найбольш вялікіх стратаў, панесеных лаціна-польскім элементам у выніку варожага стаўлення да яго царскіх уладаў, трэба прызнаць ліквідацыю ў 1820 годзе Полацкай езуіцкай акадэміі — магутнай заслоны на шляху русіфікацыі. Цяпер ужо ёй было куды лягчэй усталёўвацца ў гэтым самым старажытным беларускім горадзе.

Усім масцям русіфікатараў не давала спакою існаванне на этнічных землях Беларусі яшчэ больш магутнага навучальнага і навуковага лаціна-польскага асяродку — Віленскага універсітэта. Усе русіфікатарскія ін'екцыі ў яго навучальна-выхаваўчы працэс не давалі жаданага эфекту. Універсітэт усё папаўняў і папаўняў новымі генерацыямі колы польскай інтэлігенцыі на Беларусі. Таму, як толькі надарылася сур'ёзная прычына закрыць яго (удзел выкладчыкаў і студэнтаў у паўстанні 1830–1831 гг.), урад адразу ж выкарыстаў яе.

Падтрымка значнай часткай насельніцтва Беларусі гэтага паўстання паслужыла падставай да прыняцця рашучых захадаў па вывядзенні польскай мовы са службовага справаводства, закрыцці польскамоўных навучальных установ. Ад гэтага часу ўсе сферы грамадскага жыцця на Беларусі імкліва пачалі набываць рускае аблічча, што паступова накладвала свой адбітак і на міжасобасныя дачыненні людзей, улічваючы ўсё



большую прысутнасць сярод іх прысланых з унутраных губерняў імперыі чыноўнікаў.

Не лішнім будзе адзначыць, што яшчэ і на гэты раз дзяржаўная палітыка русіфікацыі не была напрамую скiравана супраць беларускасці, бо яна амаль адсутнічала ў афіцыйным жыцці з-за панавання тут пальшчызны. Аднак досыць маштабная замена яе рускім элементам мела самае непасрэднае дачыненне і да русіфікацыі беларусаў.

У сусветнай дзяржаўнай асімілятарскай практыцы даволі рана пачалі выкарыстоўваць у гэтых брудных мэтах друкаванае слова. Не памылюся, калі скажу: адразу ж пасля яго з'яўлення на свет. Актыўна пускалі ў ход гэты дзейсны інструмент свецкія і духоўныя ўлады Расіі, засылаючы ў навучальныя ўстановы і бібліятэкі, хрысціянскія храмы неабходную ім рускамоўную літаратуру, прычым у даволі значнай колькасці. Рабіліся захады па арганізацыі выдання на Беларусі рускамоўных газет і часопісаў, якія ад першых дзён свайго існавання пачалі старанна падрыхтаванымі фальсіфікацыямі ўсяляк перашкаджаць аднаўленню тут аб'ектыўнай гістарычнай памяці ў яе карэнных жыхароў, беспадстаўна сцвярджалі пра тоеснасць іх з рускімі. Месцам выдання першага рускамоўнага часопіса, як і трэба было чакаць, стаў горад Магілёў, значная частка насельніцтва якога вызначалася моцнымі прарускімі настроямі, чаму ўвесь час садзейнічала размешчаная тут праваслаўная епархія. Заснаваны ў гэтым горадзе ў 1817 годзе рускамоўны часопіс меў зусім не ардынарную назву «Отечественный памятник».

Русіфікатарскай дзейнасці ўдалося выйсці на новыя, больш высокія рубяжы пасля адміністрацыйна-гвалтоўнага скасавання ў 1839 годзе уніяцкай царквы і далучэння пераважнай бальшыні паствы апошняй да праваслаўнай рэлігіі з яе выключна рускімі ўстоямі. Уся ўласцівая уніяцтву беларускасць пайшла пад нож. Пад праваслаўныя пераабсталёўвалі уніяцкія храмы, у полымі шматлікіх вогнішчаў гарэлі іх рукапісныя і друкаваныя кнігі, у тым ліку беларускамоўныя, зачыняліся уніяцкія (базыльянскія) школы, паколькі навучальна-выхаваўчы працэс у іх будаваўся ў абсалютнай бальшыні выпадкаў на этнакультурных традыцыях карэннага насельніцтва. Не даводзіцца здзіўляцца, што ў адплату за такі незаслужаны здзек з боку духоўных і свецкіх уладаў імперыі нямала уніятаў не навярнулася ў праваслаўную веру, а падалося ў каталіцызм, хаця і адмоўна ставілася да яго з-за нязменнай прапольскай дзейнасці на беларускіх землях, прычым нават і падчас знаходжання іх у складзе Расійскай імперыі.

Адзначым і такое, што ні ў адзін з нацыянальных краёў Расіі яе цэнтральныя ўлады не пасылалі такіх заўзятых чыноўнікаў-русіфікатараў, як на Беларусь. Яны павінны былі бязлітасна нішчыць любое памкненне яе прагрэсіўных, высокага грамадзянскага гарту людзей з ліку карэннага насельніцтва да прыстойнага самабытнага этнакультурнага жыцця, не даць тут набраць небяспечную моц польскаму ўплыву. Пільна сачыў за гэтымі працэсамі і не даваў ім магчымасці распаўсюдзіцца генерал-губернатар Беларускіх губерняў князь Хаванскі. Без усялякіх хістанняў і сораму ў пасланай у 1824 годзе на імя імператара Аляксандра І запісцы ён прасіў распарадзіцца так, каб у гімназіях Беларусі «ўсе прадметы выкладаліся на расійскай мове», каб выпускнікі навучальных устаноў «не паступалі на грамадзянскую службу… без пасведчання *аб добрых поспехах у рускай славеснасці*» (падкрэслена намі. — *Л. Л.*). І такое было зроблена пры пераемніку Аляксандра І Мікалаю І. Міне трохі часу і апошні атрымае ў 1843 годзе ад кіраўніцтва Міністэрства народнай асветы запіску, у якой паведамлялася: «Мова руская, гэты рухавік рускай народнасці, атрымала ў гэтым краі (Беларусі. — *Л. Л.*) неаспрэчнае першынство. Там, дзе яе гукі… былі чужымі і ненавіснымі (значыцца, было і такое! — *Л. Л.*), яна вывучаецца з любоўю…»

Мікалай І звярнуў пільную ўвагу на моўны рэжым усіх формаў службовага справаводства. Яго крайне не задавальняла, што пераемнікі Кацярыны ІІ на царскім троне праявілі пэўную слабінку і дазволілі сямтам пранікнуць польскай мове ў канцыляры. Каб пакончыць з гэтай непажаданай практыкай, імператар у чэрвені 1840 года выдаў указ, згодна з якім належала «ўсе справы, як па ўрадавай, так і па судовай частцы, не выключаючы і спраў дваранскіх Дэпутацкіх сходаў і прадвадзіцеляў, выконваць на рускай мове, па вызначаных для кожнага роду спраў агульнымі законамі імперыі формах, роўным чынам, і ад таго ж часу, усе ўвогуле акты і дакументы, якога б роду і наймення яны ні былі, пісаць на рускай мове…»[1] Здаецца, ужо больш дзейснай формы прымусовага адміністрацыйнага ўкаранення рускай мовы ў службовае справаводства нашага краю і прыдумаць нельга было. Неўзабаве яна тут і сапраўды стала адзінай гаспадыняй. Беларускую мову не пускалі нават на ганак мясцовых урадавых і судовых устаноў.

У ходзе планамернай русіфікацыі асноўнага карэннага жыхарства заходніх губерняў імперыі ўлады прыйшлі да высновы пра неабходнасць забароны афіцыйнага выкарыстання ўжо даволі пашыранай назвы яго — беларусы. Яе ўжывалі на тэрыторыі Беларусі яшчэ да падзелаў Рэчы Паспалітай, пераважна ў межах Магілёўскай (Беларускай) епархіі. На астатняй жа частцы тэрыторыі нашага краю, дзе ў якасці асноўных хрысціянскіх канфесій існавалі уніяцтва і каталіцызм, бытавалі саманазвы літвіны (ліцвіны), беларусцы, русіны, літоўцы. На першым часе пасля захопу царскай Расіяй усходнебеларускіх земляў яе свецкіх і духоўных уладаў задавальняў этнонім «беларус», бо ім хоць неяк можна было апраўдацца перад Еўропай за сваю анексіяністкую акцыю, спасылаючыся, хоць і беспадстаўна, на тое, што адбылося, маўляў, далучэнне блізкіх да рускіх людзей і па рэлігіі (праваслаўнай), і назве — беларусаў. Пазней пайшлі нават на ўтварэнне адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі ў складзе Расійскай імперыі — Беларускай губерні (існавала ў 1796–1802 гг.). І ў шэрагу іншых выпадкаў ужываўся тэрмін з асновай «беларус». Усё часцей ён стаў трапляць на старонкі навуковых, навукова-папулярных, літаратурна-мастацкіх часопісаў. Рабіліся першыя крокі па стварэнні мастацкіх твораў на беларускай мове. Словам, усё ішло да ўсталявання тэрміна «беларус» у якасці назвы даволі значнай часткі насельніцтва заходніх губерняў, фармаванню ў яго погляду на сябе як на самабытную этнічную супольнасць, адрозную ад рускіх, што не адпавядала мэтам царскай палітыкі русіфікацыі на дадзенай тэрыторыі імперыі. Таму не выпадкова цар Мікалай І з падказкі сваіх ідэолагаў вялікадзяржаўнага настрою выносіць 18 ліпеня 1840 года указ пра забарону афіцыйнага выкарыстання назвы «Беларусь». Заўважу, што адбылося такое на наступны год пасля гвалтоўнага правядзення такой русіфікатарскай акцыі, як скасаванне Берасцейскай царкоўнай уніі. За Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай губернямі паступова пачала замацоўвацца ў службовым справаводстве, а з другой паловы 60-х гадоў і ў публіцыстыцы назва Паўночна-Заходні край, што не спрыяла пашырэнню ў свядомасці яго жыхароў тэрміну «беларусы», што якраз і ўваходзіла ў планы царскай русіфікацыі, затое не перашкаджала бытаванню сярод іх іншых этнонімаў. Прычынілася яна і да ўзнікнення ў многіх месцах Беларусі такой саманазвы яе жыхароў, як тутэйшыя, г. зн. мясцовыя. У іншых нацыянальных рэгіёнах Расіі з такой з'явай не даводзілася сустракацца.

Палітыка гвалтоўнай русіфікацыі ўсяго насельніцтва Паўночна-Заходняга краю, у тым ліку і некарэннага, не магло не выклікаць супраціўлення. Яшчэ больш варожа да яе ставіліся на этнічных польскіх

[1] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. — Т. 2. — Мінск, 1940. — С. 368.

землях. Невыпадкова менавіта тут выспелі планы нацынальна-вызвольнага паўстання 1863–1864 гадоў, да якога далучыліся і многія беларусы. Вынікі яго добра вядомыя нават школьнікам.

Факт паўстання царскія ўлады выкарысталі для ўзмацнення русіфікацыі на ўсёй велізарнай тэрыторыі, прычым не толькі беларускай, прыдбанай Расіяй у канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя. У чыне кормчага такой палітыкі на Беларусі добра праславіў сябе ўраджэнец Санкт-Пецярбурга Міхаіл Мураўёў. Стаўшы ў 1863 годзе віленскім генерал-губернатарам з надзвычайнымі паўнамоцтвамі, ён у першую чаргу пастараўся ўвесці ў штат Віленскай вучэбнай акругі памочніка яе папячыцеля, абавязаўшы яго пільна сачыць за ходам ажыццяўлення русіфікатарскай палітыкі. На гэты раз ужо яе прыхільнікі і праваднікі вялі барацьбу не толькі з польскім уплывам, але і беларушчынай, няўхільна прытрымліваючыся такой варожай да яе метадалагічнай устаноўкі М. Мураўёва: «У Паўночна-Заходнім краі так званую беларускую мову неабходна звесці на нішто, бо калі гэтага не зрабіць, яна пастаянна будзе інспіраваць думку аб асобным беларускім народзе і аб праве гэтага народа на этнічную самастойнасць і нацыянальна-дзяржаўную суверэннасць, чаго дапусціць нельга». І ад такой ганебнай, варожай устаноўкі ўлады адышлі толькі ў ходзе падзей рэвалюцыі 1905–1907 гадоў. А да гэтага вялася самая зацятая барацьба дзяржавы з беларускай самабытнасцю, да чаго, як ніхто іншы, добра прыклаў руку М. Мураўёў, празваны «Вешальнікам» за жорсткую расправу з паўстанцамі 1863–1864 гадоў.

З Беларуссю М. Мураўёў пазнаёміўся яшчэ ў 1827 годзе, калі знаходзіўся на пасадзе віцебскага генерал-губернатара. Ён добра ўсвядоміў, што ў насельніцтва гэтай зямлі вельмі шмат чаго адрознага ад рускіх, асабліва ў мове. Ніяк не задавальняла яго і прысутнасць тут яшчэ даволі моцнага польскага ўплыву. Быў цвёрда ўпэўнены, што гэтае зло можна паспяхова перамагчы галоўным чынам з дапамогай рускай па змесце і духу адукацыі. На такіх жа пазіцыях стаялі папячыцелі Віленскай навучальнай акругі (у яе ўваходзіла ўся Беларусь), якія працавалі ў адзін час з М. Мураўёвым А. Шырынскі-Шыхматаў (1861–1864) і І. Карнілаў (1864–1868). Пра антыбеларускую пазіцыю першага пераканаўча сведчаць наступныя словы з яго ліста на імя міністра народнай асветы Расіі Е. Пуцяціна: «…выкладанне рускай мовы і іншых прадметаў на гэтай мове абавязкова для ўсіх вучылішчаў» Віленскай навучальнай акругі.



«Тут (у межах Паўночна-Заходняга краю. — *Л. Л.*) неабходна адрадзіць старажытную, *карэнную рускую народнасць*» (падкрэслена намі. — *Л. Л.*).

Дасягнуць жа гэтага можна было толькі праз рускую культурна-моўную асіміляцыю, за якую з уласцівай яму ўпартасцю і паслядоўнасцю ўзяўся М. Мураўёў. Здаралася і такое, што сваю пазіцыю па дадзеным пытанні ўзгадняў нават з самім царом. У пасланай на яго імя ў красавіку 1864 года запісцы прасіў «пацвердзіць канчаткова аб паўсюдным увядзенні рускай мовы… ва ўсіх афіцыйных і службовых зносінах, а таксама і ў знадворных апісаннях усялякага роду, асабліва ў месцах, што наведваюцца народам»[1].

У сваіх частых даносах у адрас цэнтральнай улады Расіі М. Мураўёў настойліва прасіў яе тэрмінова абвясціць Беларускі край рускім, «не зважаючы ні на якія выкрыкі… уводзіць тут рускую народнасць», усталяваць у ім «на трывалым падмурку панаванне Расіі». Гэты заўзяты русіфікатар вельмі ўжо пільна сачыў сам і патрабаваў ад іншых, каб ва ўсіх відах службовага справаводства выкарыстоўвалася выключна толькі руская мова. Яго абразлівы для кожнага нацыянальнай арыентацыі беларуса заклік: «Патрэбна ўсім і стала тлумачыць, што край Паўночна-Заходні заўсёды быў і ёсць рускі» на працяглы перыяд прадвызначыў тут дзяржаўную нацыянальна-культурную, моўную палітыку. Прычым не толькі Расійскай імперыі. Не выключана, што менавіта за велізарны ўклад у абрусенне карэннага жыхарства Паўночна-Заходняга краю М. Мураўёву ў 1864 годзе надалі тытул графа з прыстаўкай «Віленскі». І хаця з наступнага года гэты расейскі дзеяч ужо знаходзіўся ў адстаўцы, маштабнасць русіфікацыі ў Паўночна-Заходнім краі не звужалася, у чым заслуга яго адданых паслядоўнікаў і найперш спамянутага вышэй І. Карнілава. Яны прыклалі каласальныя намаганні, усе свае сілы, каб сярод насельніцтва гэтай зямлі ніколі не зарадзіўся рух за аддзяленне ад Расіі і ўтварэнне незалежнай уласнай дзяржавы. Дзякуючы нястомным стараннням такіх людзей, як М. Мураўёў і І. Карнілаў, тагачасная Беларусь пераўтварылася ў сапраўдную лабараторыю русіфікацыі.

За пяць гадоў знаходжання І. Карнілава на пасадзе папячыцеля Віленскай навучальнай акругі ён так удасканаліў русіфікатарскую палітыку педагагічнага працэсу навучальных устаноў, што яна не толькі без асаблівых змен праіснавала да лістапада 1917 года, але і сёння працягвае выкарыстоўвацца ў сферы народнай адукацыі суверэннай Рэспублікі Бе-

---

[1] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. — Т. 2. — С. 575.

ларусь. Не баюся памыліцца ў сцвярджэнні, што пад словамі І. Карнілава «…канчатковае ўз'яднанне краю (Паўночна-Заходняга. — *Л. Л.*) з усёй Расіяй трэба будзе здзейсніць не рускай зброі, але рускай цывілізуючай сіле», пад якой разумелася перш за ўсё руская сістэма адукацыі, гатовы падпісацца не толькі ўвесь сучасны кіраўнічы апарат Міністэрства асветы РБ, але і бальшыня яе высокіх палітычных дзеячаў, інакш бы ў гэтай важнай сферы зараз не дзеялася б тое ж, што і за М. Мураўёвым і яго паслядоўнікамі. Як вялікая ганьба ўспрымаецца, што ў гэтых вядучых архітэктараў царскай русіфікатарскай палітыкі не мелася недахопу ў беларускай гадоўлі герастратах. Магчыма, самым першым і найбольш актыўным з іх быў ураджэнец Гарадзеншчыны прафесар Пецярбургскай духоўнай акадэміі грамадскі дзеяч Міхаіл Каяловіч (1828–1891). Ён адкрыта выказваў радасць і захапленне, што дзякуючы М. Мураўёву і яго саўдзельнікам, паслядоўнікам на ўсёй Беларусі «заснаваны шматлікія народныя вучылішчы і забяспечана правільнае, рускае вядзенне ў іх навучання», што «адноўлена ва ўсім адміністрацыйным, навучальным і грамадскім асяроддзі панаванне рускай мовы». Не сумняваюся, што гэтага адарванага ад нацыянальных традыцый навукоўца на ўсе сто працэнтаў задавальняў бы і сённяшні стан народнай адукацыі, дзяржаўнай моўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь. Ці вось такі кур'ёзны прыклад: адзін з паэтаў у канцы XIX ст. выказаў у сваім вершы ўпэўненасць, што М. Мураўёў застанецца «во век здесь на Литве (адна з назваў нашага краю. — *Л. Л.*), как русское начало»[1]. А мо тут нічога кур'ёзнага і няма, улічваючы характар сучаснай дзяржаўнай культурна-моўнай палітыкі ў нашай краіне.

Шчырыя прыхільнікі і непасрэдныя праваднікі палітыкі русіфікацыі ніколі не забываліся на тое, што дзеля яе зрабіў на Беларусі М. Мураўёў. Нібы на здзек з памяці тых людзей, што змагаліся і загінулі падчас нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў 1863–1864 гадоў, яму ў 1898 годзе ў Вільні паставілі помнік, а 17 красавіка 1901 года ў адным з памяшканняў публічнай бібліятэкі гэтага горада ўрачыста адкрылі «Музей графа М. М. Мураўёва». У яго сем аддзелаў пастараліся сабраць даволі вялікую колькасць матэрыялаў пра «плённую» дзейнасць галоўнага віноўніка тых урачыстасцяў.

У год адкрыцця музея М. Мураўёва была выдадзена і прысвечана яго дзейнасці на Беларусі брашурка. Напісаў яе вядомы ў нашым краі чыноўнік

---

[1] Белецкий А. В. Открытие музея графа М. Н. Муравьева. — Вильно, 1901. — С. 30.



і навуковец у галіне народнай адукацыі А. Бялецкі. Трэба аддаць належнае дару гэтага чалавека прадказваць будучае, у чым можна пераканацца з наступных слоў адной з яго публікацый: «Асновы кіравання Пн.-З. (Паўночна-Заходнім. — *Л. Л.*) краем, пакладзеныя Мураўёвым, застаюцца і, веруем, застануцца назаўжды нязменнымі, і край застанецца назаўжды рускім краем. Таму вывучэнне дзейнасці графа М. М. Мураўёва мае для жыхароў Пн.-З. краю не толькі гістарычны, але і практычны інтарэс: многія ж з'явы сучаснага жыцця краю знаходзяць сваё растлумачэнне менавіта ў распараджэннях графа М. М. Мураўёва. Наўрад ці трэба дадаваць да гэтага, што ў асаблівасці для асобаў, прызначаных на Гасудараву службу ў Пн.-З. краі, можа быць карысным і плённым вывучэнне Мураўёўскага часу. Гэтае павучанне цалкам пакажа ім, як ім трэба працаваць і служыць, каб саслужыць верную службу Цару і айчыне» (Расіі. — *Л. Л.*).

І па-вернападданіцку служыць расійскаму імператару было каму на Беларусі. Асаблівая кішэла іх сярод чыноўнікаў ад народнай адукацыі і высокіх асобаў праваслаўнага духавенства. У многіх нацыянальных рэгіёнах імперыі ствараліся школы на роднай мове іх карэннага насельніцтва, а беларусам не спыняліся цвердзіць: «Вы ж рускія, таму скрозь і паўсюдна на вашай зямлі павінны панаваць рускія парадкі». І яны сапраўды запанавалі, адцясняючы тут на задні план усё, што не адпавядала рускаму духу: беларускае, польскае, яўрэйскае, татарскае і г. д.

Ні рымска-каталіцкі касцёл Беларусі, ні падведамныя яму навучальныя установы яшчэ не працавалі ў такіх цяжкіх і складаных умовах, як пасля задушэння нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863–1864 гадоў. Царскія ўлады справядліва лічылі галоўным віноўнікам яго польскіх патрыётаў, сярод якіх нямала было і ксяндзоў. Ад гэтага часу амаль поўнасцю была выключана польская мова з выдання казанняў і каталіцкіх календароў. Яе замянілі лацінскай і нават рабіліся па ўказцы ўладаў спробы выкарыстоўваць у гэтых мэтах рускую мову, што заўжды сустракала вялікі адпор з боку і каталіцкага святарства, і вернікаў.

Так рашуча, смела ўкараняць на Беларусі рускі дух аблягчала царызму адсутнасць усялякага супраціўлення гэтай антычалавечай палітыцы з боку інтэлектуальных сіл расійскага грамадства. Наадварот, у іх асяроддзі ва ўсе часы сустракалася нямала досыць уплывовых асобаў — прыхільнікаў такой палітыкі. Толькі зрэдку ад рускай інтэлігенцыі, па-сапраўднаму інтэрнацыянальнага толку, можна было пачуць голас у падтрымку зняважаных царскімі ўладамі беларусаў. Аднойчы і ў адной з маскоўскіх

славянафільскіх газет «День» пісалася: «Мы вінаваты перад вамі (беларусамі). Мы, расійскае грамадзянства, як бы забыліся аб існаванні Беларусі»[1]. Аднак такія спачуванні беларусам не маглі хоць у самай нязначнай ступені паўплываць на агрэсіўнасць імперскай русіфікатарскай палітыкі на іх гістарычнай зямлі. Яе незаконныя гаспадары, не ведаючы адпачынку і стомы, з зайздроснай упартасцю пераабсталёўвалі спрадвеку тут існы беларускі лад на рускі капыл.

Актыўна працавала на карысць дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі заснаванае ў 1845 годзе ў Санкт-Пецярбургу Рускае геаграфічнае таварыства. Каб такую працу зрабіць яшчэ больш эфектыўнай, пры ім у 1867 годзе ствараецца Паўночна-Заходні аддзел. Толькі некаторыя члены аддзела давалі аб'ектыўную інфармацыю пра гісторыю, культуру і быт беларускага народа. Бальшыня ж, спраўна выконваючы сацыяльны заказ русіфікатараў, усяляк імкнулася даказаць адсутнасць якіх-небудзь культурна-моўных адрозненняў паміж насельніцтвам Беларусі і этнічных тэрыторый Расійскай імперыі.

Кіраўнікам Паўночна-Заходняга краю трэба аддаць належнае за іх проста выдатнае разуменне ролі і Рускай праваслаўнай царквы ў абрусенні сваіх беларускіх вернікаў. Гэта выразна выявілася ўжо ў першыя гады пасля ліквідацыі Берасцейскай царкоўнай уніі, але з такім размахам, як падчас паўстання 1863–1864 гадоў і яго задушэння, праваслаўнае духавенства яшчэ не ўключалася ў русіфікатарскі працэс. І небезвынікова. Праз якія-небудзь дзесяць-пятнаццаць гадоў пасля паўстання пра праваслаўную царкву на Беларусі ўжо можна было гаварыць як пра тыпова рускую з'яву. Заслуга ў гэтым найперш адкамандзіраваных з цэнтральных губерняў царскай імперыі папоў. Бальшыня з іх добра ведала, што тут жывуць зусім не такія, як у цэнтры Расіі, людзі і таму вялікі грэх ісці да іх з незразумелай рускай мовай, каб не адступіцца ад слоў са Святога Пісання апостала Паўла: «Бо калі я малюся на чужой мове, дык хоць дух мой і моліцца, але розум мой застаецца без плоду». Аднак непамерна вялікае жаданне як мага хутчэй сцерці ўсе этнакультурныя адметнасці беларусаў ад рускіх з мэтай фармавання на ўсёй тэрыторыі царскай імперыі адзінага рускага народа перашкодзіла прыбылым на Беларусь папам быць у згодзе з апосталам Паўлам. Насуперак яго папярэджанням Руская праваслаўная

[1] Цыт. паводле: Найдзюк Язэп, Касяк Іван. Беларусь учора і сёння. — Мінск, 1993. — С. 133.



царква цалкам праігнаравала ў сваім набажэнстве беларускую мову карэннага насельніцтва заходніх губерняў імперыі, навязаўшы яму чужую рускую мову, чым вельмі добра пасадзейнічала русіфікацыі даволі вялікай колькасці людзей, што стагоддзямі жылі, развіваліся як самабытны славянскі этнас. Добра, калі з сотні засланых да нас папоў хоць адзін за дваццаць-трыццаць гадоў служэння Богу на Беларусі збольшага інтэграваўся ў яе прыроднае культурна-моўнае жыццё. У гэтым краі не толькі яны, але і іх дзеці заставаліся перакананымі носьбітамі рускага духу, усяляк стараючыся, каб ён запанаваў і ў асяроддзі папоў мясцовага паходжання. І гэтая задума ўдалася вярхам праваслаўнага духавенства. Практычна з парадку дня было знята пытанне, як зрабіць праваслаўную царкву ў Паўночна-Заходнім краі рускай паводле ўсіх параметраў сваёй шматграннай дзейнасці. Яна арганічна ўпісвалася ў русіфікатарскую палітыку дзяржавы і пароўну з яе свецкімі ўладамі дзяліла буйныя дасягненні ў культурна-моўнай асіміляцыі беларускага народа. Праўда, некаторымі імперскімі ідэолагамі выказвалася — і лічу зусім справядліва — меркаванне, што ў гэтую агульнадзяржаўную справу ўсё ж найбольшы ўклад унесла праваслаўная царква. Таму і ёй у заслугу можна смела паставіць, што многія праваслаўныя вернікі з этнічных беларусаў выракліся сваёй нацыі і называлі сябе рускімі.

Непараўнальна цяжэй было гвалтам ці падманам навязаць этнонім «рускі» беларусам каталіцкага веравызнання. Сур'ёзна перашкаджалі панаванне ў набажэнстве гэтай канфесіі лаціна-польскага пачатку, здаўна навязаныя, а таму даволі ўстойлівыя ў асяроддзі вернікаў польскія культурна-моўныя традыцыі. Аддаць іх на згубу русіфікацыі ніяк не жадалі не толькі касцёл, але і моцна інтэграваныя ў польскую культуру мясцовыя паны і інтэлігенцыя ў бальшыні сваёй беларускага паходжання, пра што не забываліся яшчэ і на рубяжы XIX–XX стагоддзяў. На што толькі не ішлі свецкія і духоўныя ўлады царскай імперыі дзеля выкаранення польскага і ўнясення на замену яго свайго рускага духу ў каталіцкі асяродак жыхароў Паўночна-Заходняга краю. Вельмі вялікія надзеі ўскладалі на ўвядзенне рускай мовы ў каталіцкае набажэнства. Вынікі сталіся мізэрнымі. Давялося нават канчаткова адмовіцца ад такой задумы. Затое ўдалося нанесці чарговы магутны ўдар па польска-каталіцкай адукацыі, па-ранейшаму прэстыжнай сярод мясцовай моладзі. Наносіла ж яго сама цэнтральная ўлада царскай Расіі. У адпаведнасці з прынятым імператарам 10 снежня 1912 года ўказам «усе вучылішчы, што яшчэ засталіся пры касцёлах, былі

перададзены міністэрству асветы на агульных падставах»[1]. Кіраўніцтва апошняга і падначаленыя яму на месцах органы асветы рабілі ўсё дзеля хутчэйшага пераўтварэння такіх вучылішчаў у тыповыя рускія навучальна-выхаваўчыя ўстановы. І ў бальшыні выпадкаў такое ўдавалася.

Дзяржаўнымі русіфікатарамі праводзіліся на практыцы і іншага характару захады па падрыву ўплыву рымска-каталіцкай канфесіі на Беларусі, у прыватнасці абмежаванне на выданне патрэбнай касцёлу рэлігійнай літаратуры. Менш паспяхова вялося змаганне з польскамоўнай перыёдыкай.

Рознага роду страты ў галіне культуры польскай этнічнай супольнасцю, спаланізаванай часткі беларускага насельніцтва ў Паўночна-Заходнім краі кампенсаваліся дапамогай ім з боку палякаў, што жылі на сваёй карэннай тэрыторыі ў Царстве Польскім. Невыпадкова замест жаданага для кіраўніцтва краю скарачэння колькасці вернікаў каталіцкага касцёла адбылося іх павелічэнне з 1,3 млн чалавек у 1864 г. да 1,9 млн у 1897 г., або на 46 %. Праўда, лік праваслаўных вернікаў за гэты час падвоіўся[2]. Па колькасці яны перасягалі католікаў у 2,7 раза. Калі царызм супольна з Рускай праваслаўнай царквой адабраў у беларускай культуры такое ўраджайнае для ўсіх еўрапейскіх народаў дзевятнаццатае стагоддзе (пэўныя праявы прафесіяналізму ў беларускім літаратурным працэсе, тэатральна-музычным, выяўленчым мастацтвах не пярэчаць сказанаму), дык з польскім духам у Паўночна-Заходнім краі яны не змаглі ў такой ступені саўладаць. Дапамагала тут захоўванню пальшчызны і сталае падсілкаванне яе Царствам Польскім. У беларускай культуры не было такой падтрымкі ні на захадзе, ні на ўсходзе. Ад дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі даводзілася абараняцца толькі ў разліку на ўласныя сілы, якіх заўжды не ставала. З вялікай ступенню верагоднасці можна сцвердзіць: пры адсутнасці на Беларусі польска-каталіцкага фактару вынікі русіфікацыі яе тытульнага народа былі б непараўнальна больш адчувальнымі. Сваім упартым супраціўленнем апошняй палякі нібыта сплачвалі беларусам свае даўгі за шматгадовую паланізацыю.

---

[1] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі (далей — ЭГБ). — Т. 6. — Кн. 1. — Мінск, 2001. — С. 156.

[2] Яноўская В. В. Хрысціянская царква ў Беларусі ў 1863–1914 гг. — Мінск, 2002. — С. 22.



Нягледзячы на відавочныя дасягненні ў абрусенні беларусаў на гэтым вартай самай вялікай ганьбы рысталішчы заставалася яшчэ шмат бруднай працы для свецкіх і рэлігійна-праваслаўных асімілятараў і ў новым, дваццатым, стагоддзі. Як-ніяк пераважная бальшыня беларусаў заставалася сама сабой, рашуча адхіляла завезеную ў іх край назву «рускія». Смялей і больш пераканаўча загаварыла пра беларускую этнакультурную самабытнасць, неабходнасць любымі сродкамі абараняць яе інтэлігенцыя. Усё часцей узнімалася гаворка пра выратавальную для краю ролю нацыянальнай школы. Пад уплывам агульнарасійскіх падзей 1905–1907 гадоў і на роднай мове яго насельніцтва пачалі выходзіць газеты, выдавацца кнігі. Але не драмалі і русіфікатары, надаючы асаблівую ўвагу схіленню на свой бок уплывовых у асяроддзі мясцовага насельніцтва людзей. І такіх герастратаў набралася процьма. Іх рукамі рабілася нямала па задушэнні беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху. На тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю дзейнічала шырокая сетка розных вялікадзяржаўна-шавіністычных манархічных арганізацый, сярод якіх найбольш рэакцыйную пазіцыю займаў «Саюз рускага народа» (1905–1917). Для яго беларусы — гэта не самабытны этнас, а толькі складовая частка рускага народа, з чаго вынікала, што для іх непатрэбныя ні ўласная нацыянальная культура, мова, адукацыя, ні якая-небудзь форма палітычнай аўтаноміі. Па-ранейшаму ў нацыянальна зарыентаваных колах грамадства найбольшую трывогу выклікаў прарускі характар народнай адукацыі. Пачатак XX стагоддзя не ўнёс у яе ніякіх перамен. Міністэрства асветы працягвала ставіць перад школамі Беларусі задачу, каб «дзеці розных нацыянальнасцяў атрымлівалі чыста рускі накірунак і *падрыхтоўваліся да поўнага зліцця з рускай народнасцю*»[1] (падкрэслена намі. — *Л. Л.*). Дзеялася ж такое на Беларусі ў той час, калі ў нацыянальных рэгіёнах царскай імперыі пад напорам прагрэсіўных сіл рабіліся пэўныя крокі па стварэнні школ на роднай мове. Шмат пазітыўнага ўтрымлівалася ў рэзалюцыях 1-га Усерасійскага з’езда па пытаннях народнай адукацыі (1914 г.). У іх пералічана вялікая колькасць нярускіх народаў (апроч беларускага), дзяцей якіх прапаноўвалася навучаць на нацыянальных мовах. Падкрэслівалася, што «выкладанне на роднай мове навучэнцаў з’яўляецца неабходнай умовай духоўнага і

---

[1] Голодед Н. М. От колонии русского царизма до республики ордена Ленина. — Минск, 1935. — С. 19.

культурнага развіцця і эканамічнага дабрабыту насельніцтва…»[1]. Як бачым, сфармулявана такая прагрэсіўная думка, на што няздольныя нават улады, Міністэрства адукацыі сучаснай Беларусі. Злачыннае непрызнанне царызмам беларусаў за самабытны народ не дазволіла распаўсюдзіць на іх палажэнні з рэзалюцый названага вышэй з'езда работнікаў народнай адукацыі Расіі датычна мовы выкладання ў школе.

Бескампрамісна ваяваў з беларускасцю афіцыйны рускамоўны друк, даволі шырока распаўсюджаны ў Паўночна-Заходнім краі. Прычым як у рэдакцыях, так і сярод аўтараў не было недахопу ў асобах мясцовага паходжання. Зрусіфікаваныя ўжо не ў першым пакаленні яны страцілі ўсялякую сувязь са сваім народам і за вялікі гонар лічылі дапамагаць царскім уладам у завяршэнні яго культурна-моўнай асіміляцыі. Магутнай плынню наваднялі кніжны рынак Беларусі манархічнага кірунку часопісы і газеты з гарадоў цэнтральнай часткі Расійскай імперыі. Як рускім мясцовым, так і перыядычным друкам цэнтральных губерняў найбольш за ўсё стрэл было выпушчана супроць беларускамоўных газет і літаратуры. Русіфікатары добра разумелі, калі беларуская мова як след зацвердзіцца ў літаратурным працэсе, стане намнога цяжэй яе носьбітаў пераплавіць у рускую народнасць.

Як ніводзін іншы перыядычны орган, вялікі ўклад у размыванне этнічнай самасвядомасці, знявагу роднага слова карэннага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю ўнеслі рэдактары і аўтары заснаванай у Санкт-Пецярбургу газеты «Окраины России» (1906–1912). На беларускую мову яны глядзелі не інакш, як толькі на дыялект, адгалінаванне рускай, усяляк бэсцілі ўсё больш і больш папулярную ў народзе газету «Наша ніва». У гэты ж час актыўна працаваў на карысць дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі калектыў штодзённай грамадска-палітычнай газеты вялікадзяржаўна-шавіністычнага кірунку «Минское слово». З боку яе рэдакцыі і бальшыні аўтараў галоўны ўдар наносіўся па беларускім нацыянальна-культурным Адраджэнні. З гэтай мэтай адмаўлялася этнакультурная адметнасць беларусаў ад рускіх, усяляк ганьбіліся набыткі пачынальнікаў беларускай нацыянальнай літаратуры. Сустракаліся публікацыі, дзе напрамую ўладам прапаноўвалася забараніць адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры, спыніць усялякія размовы пра неабходнасць беларусам мець уласную нацыянальную школу.

[1] Вестник воспитания. — 1914. — № 5. — С. 38.



Пасля ўсяго сказанага, думаю, мала хто ўсумніцца, што пераканаўчых прыкладаў мэтанакіраванай дзейнасці цэнтральных уладаў імперыі і мясцовай адміністрацыі, створанага імі ідэалагічнага апарату па захаванні, далейшым распаўсюджванні на Беларусі рускіх культурна-моўных стандартаў было нямала і на пачатку XX стагоддзя. Калі нацыянальна-патрыятычным сілам яе і ўдавалася арганізаваць выпуск газет «Наша доля», «Наша ніва» і іншых, а таксама распачаць выданне на беларускай мове кніг і брашур, дык дасягалася такое толькі цаною неверагодных высілкаў і без усялякай матэрыяльнай, фінансавай дапамогі дзяржавы. Праблема этнічнага выжывання беларусаў у складзе Расійскай імперыі не губляла сваёй вастрыні аж да самага распаду гэтага рэакцыйнага дзяржаўнага арганізма. Дамагчыся хоць самага мізэрнага зруху ў развязванні дадзенай праблемы, як нішто іншае, моцна перашкаджала выключэнне імперскай уладай беларускай мовы з усіх сфераў грамадскага жыцця і самае страшнае — з духоўнай, дзе акурат фармуецца этнакультурная самабытнасць народа, гартуецца яго нацыянальная самасвядомасць. Пры ўсёй жорсткасці каланіяльнага характару імперскай нацыянальнай палітыкі на Беларусі і тут пачалі закладвацца падваліны для развіцця прафесійных пластоў культуры. Зразумела, рускай, якую ўлады разглядалі ў якасці асноўнага сродку асіміляцыі насельніцтва заходняй часткі імперыі. Каб забяспечыць рускай мове вядучае месца і ў культуры нашага краю, спатрэбілася шмат часу, энергіі. Займаліся гэтым пераважна не майстры мастацкага слова, прафесійныя дзеячы культуры, а засланыя з цэнтральных губерняў царскія чыноўнікі, папы, настаўнікі. На новай для сябе зямлі яны выступалі як тыповыя акупанты, таму і занесеную імі на Беларусь рускую культуру, мову з поўнай падставай можна называць акупацыйнымі. Народу ж ідэолагі русіфікацыі даводзілі зусім адваротнае: руская культура і мова, маўляў, ні чые іншыя, як твае ўласныя, якімі ты стагоддзямі, пакуль, маўляў, не трапіў пад уладу Літвы і Польшчы, з вялікай любоўю і пашанаю карыстаўся, жыў гэтымі дарагімі табе духоўнымі каштоўнасцямі. Усё, што рабілася ў галіне культуры прышлымі ў наш край з усходу працаўнікамі гэтай сферы, чыноўнікамі, праваслаўнымі святарамі, настаўнікамі, цалкам адпавядала рускаму ідэалу. Дзеля яго сцвярджэння тут свядома ігнаравалася на дзяржаўным узроўні ўсё не толькі польскае, але і беларускае. Роднага слова карэннага насельніцтва не чулі ні ў памяшканнях мясцовай улады ўсіх рангаў, ні ў праваслаўных храмах, ні ў навучальных установах, ні ў тэатрах, бібліятэках, музеях, ні пры ладаванні рознага роду афіцыйных

масавых мерапрыемстваў. Народу такое выдавалася за неабходнасць вяртання да «сваіх» спрадвечных культурна-моўных традыцый. І народ, ідэалагічна непадрыхтаваны адстойваць сапраўды сваё, паступова пачынаў звыкацца з імі, глядзець на чужое, як на роднае. Дзіўна, што гэтага ніяк не жадаюць прызнаць палітыкі і даволі шматлікая частка адданай ім інтэлігенцыі сучаснай Рэспублікі Беларусь. Бальшыня з іх, будучы ўжо не ў першым пакаленні артадаксальнымі носьбітамі культурна-моўных традыцый суседняй усходняй краіны, ніяк не жадае пагадзіцца з тым, што на працягу некалькіх стагоддзяў руская мова не стыхійна, не добраахвотна, а пад вялікім прымусам, а дзе-нідзе і з дапамогай вельмі тонка прадуманай і ўдала праведзенай ідэалагічнай апрацоўкі людзей распаўсюджвалася ў нашым краі.

Сваёй паслядоўнай, няспыннай антынацыянальнай палітыкай русіфікатарам удавалася падтрымліваць не толькі ў шырокіх колах грамадства, але і ў самых высокіх эшалонах свецкіх і духоўных уладаў Расійскай імперыі міф аб неіснаванні ў самой прыродзе беларускага народа. Таму, калі імперыі рухнула, і на змену ёй прыйшоў Часовы ўрад, апошні таксама стаяў на пазіцыях непрызнання беларусаў за самабытную нацыю і не перашкаджаў іх русіфікацыі. Яна, калі не канчаткова, дык амаль сканала толькі на занятай кайзераўскімі войскамі ў ходзе Першай сусветнай вайны беларускай тэрыторыі.

У апошнія тыдні і дні існавання Часовага ўрада мала які з народаў Расіі нёс такія вялікія людскія страты, як беларускі, што ўскладняла яго самаадданае змаганне за захаванне сябе як самабытнага этнасу. Эвакуаваныя (часта пад вялікім прымусам) на ўсход разам з дарослымі беларускія дзеці вымушаныя былі наведваць рускамоўныя школы, не мелі магчымасці чытаць літаратуру на роднай мове, не выкарыстоўвалі яе ў міжасобасных зносінах са сваімі аднагодкамі іншых нацыянальнасцяў.

Не толькі шчырыя, актыўныя беларускія адраджэнцы, але і многія асабліва не ўцягнутыя ў нацыянальных рух асобы не падзялялі асімілятарскую палітыку царызму, доказна пісалі пра непазбежнасць этнічнага вымірання беларусаў, калі яны не знойдуць ў сабе сілы супрацьстаяць гэтай антычалавечнай навале. Сказанае добра пацвярджаюць наступныя словы з успамінаў гаспадарчага і больш-менш лаяльнага да афіцыйных уладаў палітычнага дзеяча Беларусі Эдварда Вайніловіча (1847–1928): «…расійскі ўрад да таго русіфікаваў краіну, што, калі б яшчэ пару пакаленняў прайшло праз народныя школы (працавалі толькі на рускай мове. — *Л. Л.*), то беларуская мова знікла б цалкам, і Масква за паўтараста гадоў панавання зацерла б сляды ўсіх завадовых адрозненняў»[1]. Магчыма, двух пакаленняў і мала было б, але ўсё ж русіфікацыя праводзілася з належным размахам, і ў беларусаў заставалася ўсё менш і менш шанцаў на захаванне сябе як самабытнага этнасу. Становішча ратавалася галоўным чынам дзякуючы таму, што абсалютная бальшыня карэннага насельніцтва жыла на вёсцы, куды вельмі марудна пранікала руская культура з характэрнымі ёй асіміляцыйнымі наступствамі. Не атрымлівалі русіфікатары належнага эфекту ад дзейнасці на вёсцы рускамоўных школ з-за таго, што яны былі толькі пачатковымі і іх наведвалі далёка не ўсе дзеці сельскай мясцовасці. Аднак усё гэта насіла часовы характар, і рана ці позна ўмовы для русіфікацыі насельніцтва беларускай вёскі карэнным чынам палепшыліся б.

[1] Наша слова. — 2008. — 16 студзеня. — С. 9.

## САВЕЦКАЯ

Сфармаваны ва ўладаў царскай імперыі, а затым перададзены ад яе ў спадчыну Часоваму ўраду погляд на беларусаў, як на нейкае да канца не вынашанае ва ўлонні мацеры, а таму і недаразвітае адгалінаванне рускага народа, без усялякіх удакладненняў быў да ведама прыняты ў кастрычніку 1917 года новымі гаспадарамі Расіі — бальшавікамі. Абвешчаная імі 2 (15) лістапада 1917 года даволі прагрэсіўная для таго часу «Дэкларацыя правоў народаў Расіі» зусім не закранула беларусаў. Чаму? Ды таму, што і новая ўлада не лічыла іх за самабытны народ, атаясамліваючы з рускім. А калі так, дык навошта ж даваць ім права на незалежнае нацыянальна-дзяржаўнае жыццё, ствараць неабходныя ўмовы для самабытнага этнакультурнага развіцця. Затое не ў прыклад беларусам, суседнія ім народы ўкраінцы, літоўцы, латышы, а таксама эстонцы на падставе гэтага дакумента атрымалі права на стварэнне незалежных дзяржаў і без усялякага прамаруджвання пачалі страсаць з сябе прагорклы пыл русіфікацыі. На беларускі ж арганізм кляліся ўсё новыя і новыя яго напластаванні. На шчасце, не на ўсім беларускім абшары, бо ў той частцы, што знаходзілася пад уладай нямецкіх інтэрвентаў, нацыянальная ідэя так запаланіла сэрцы і душы людзей, што і ў іх перадавых пластах зарадзілася моцнае, цалкам заканамернае жаданне займець уласную дзяржаву, каб з дапамогай яе з коранем вынішчыць усё тое, што не давала магчымасці беларусам адчуць сябе гаспадаром у роднай хаце. І такую дзяржаву абвясцілі 9 сакавіка 1918 года ў акупаваным кайзераўскімі войскамі Менску, даўшы ёй назву Беларуская Народная Рэспубліка (БНР). Гэта была першая ў айчыннай гісторыі краіна з тэрмінам «Беларуская». Неўзабаве, 25 сакавіка, БНР была абвешчана незалежнай дзяржавай.

На ўсход ад лініі савецка-нямецкага фронту беларусам даводзілася і палітычнае, і культурнае жыццё ладзіць паводле рускіх савецкіх стандартаў, выкінуўшы з галавы ўсялякія думкі, што тут працягваецца працэс русіфікацыі. Гэта пераканаўча тлумачыць, чаму ў афіцыйны абыходак ніяк не трапляла слова «беларус». Асноўны масіў этнічнай тэрыторыі беларусаў у межах Расійскай Федэрацыі не карыстаўся ніякімі правамі аўтаноміі і меў вельмі блізкую да прыдуманай царызмам (Паўночна-Заходні край) назву — Заходняя вобласць (у верасні 1918 года перайменавана ў Заходнюю камуну), куды ўваходзілі Віленская, Магілёўская, Мінская і Смаленская губерні. Але не той ужо быў час, дый моцна пасталеў беларускі нацыянальна-вызваленчы рух. Бальшавіцкая Масква пагадзілася на абвяшчэнне Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі (БССР), цесна прывязаўшы яе да Расійскай Федэрацыі. На пачатку ў афіцыйным жыцці БССР вельмі мала чаго было беларускім, асабліва ў яе дзяржаўна-партыйным кіраўніцтве. Тут кішэлі палітыкі, якія не прызнавалі беларусаў за самабытны народ і ўсяляк стараліся не выпусціць яго з рускай культурна-моўнай стыхіі. БССР на больш высокі палітычны статус, як марыянетка РСФСР, не цягнула. Яшчэ менш думалі пра беларускасць закінутыя ў дзяржаўна-партыйнае кіраўніцтва нашага краю асобы падчас існавання Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (Літбел; люты 1919 — ліпень 1920 г.). У прынятым 21 сакавіка 1919 года Дэкрэце аб правах нацыянальнасцяў насельніцтва Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Літвы і Беларусі ў такім парадку даецца пералік яе агульнадзяржаўных моваў: літоўская, польская, яўрэйская, руская і беларуская (апошняя!). Ведаючы, што ў Літбеле найбольш пражывае беларусаў і ставіць іх мову на апошняе месца сярод усіх агульнадзяржаўных — гэта ёсць нішто іншае, як афіцыйная дыскрымінацыя нацыянальных правоў дадзенага народа. Па віне чужых палітыкаў яго дзяржаўнасць не адбылася ў рамках існавання Літбела.

Пэўныя крокі па абмежаванні рускага ўплыву пачалі рабіцца на дзяржаўным узроўні толькі пасля другога абвяшчэння 31 ліпеня 1920 года Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі, што выклікала моцную незадаволенасць у палітыкаў і інтэлігенцыі прарускай арыентацыі. Ад іх пасыпаліся лісты-пратэсты ў партыйныя і савецкія органы Масквы. На гэты раз яна ўпершыню за шмат стагоддзяў стала на бок БССР, без чаго апошняй вельмі цяжка было б справіцца з панаваннем рускага элементу, асабліва ў сферы народнай адукацыі. У 1921 годзе, напрыклад, на рускія школы прыпадала 75 % іх агульнай колькасці, а на беларускія — толькі 22[1]. Падвесці нацыянальны падмурак пад народную адукацыю істотна перашкаджала пераважная колькасць тут настаўнікаў, выхаваных у духу рускага вялікадзяржаўнага шавінізму. Іх падтрымоўвалі такой жа арыентацыі службоўцы мясцовых органаў улады. Пільна назіраючы за

---

[1] Вольфсон С. Я. Культурная рэвалюцыя ў дзеяньні. Нацыянальна-культурнае будаўніцтва БССР да XV-годзьдзя кастрычніцкай рэвалюцыі. — Мінск, 1932. — С. 16.

ўсім гэтым, народны пясняр Беларусі Якуб Колас прыйшоў да праўдзівай высновы, што «сярод старых настаўнікаў прыхільнасці да беларускасці няма». Яна з’явілася пазней, сярод маладых настаўнікаў, якія прыйшлі ў школу з заснаваных у БССР педагагічных навучальных устаноў.

Кіраўніцтву БССР робіць вялікі гонар, што ажыццяўляючы ўладу толькі на тэрыторыі колішняй Менскай губерні (усе астатнія беларускія этнічныя землі знаходзіліся пад уладамі Расійскай Федэрацыі і Польшчы), яно так аддана і плённа працавала на беларускі нацыянальны інтарэс, упэўнена сцвярджаючы, нягледзячы на сур’ёзныя цяжкасці ўнутранага і знадворнага характару, сябе ў якасці нацыянальнай дзяржавы. Яшчэ раз у сусветнай практыцы пацвердзілася, што каб стаць такой па-сапраўднаму нацыянальнай дзяржавай, для гэтага неабавязкова мець вялікую тэрыторыю і шмат людзей на ёй. Усё залежыць ад таго, якія палітыкі кіруюць краінай.

Набыткі БССР у нацыянальна-дзяржаўным будаўніцтве, развіцці культуры на яе прыродным, а не навязаным звонку матэрыяле станоўча ўплывалі на настрой той пераважнай па колькасці часткі беларусаў, што жылі на тэрыторыі РСФСР. Сказанае датычыла і нашых супляменнікаў Смаленшчыны. Росту іх нацыянальнай актыўнасці, заканамернаму жаданню апынуцца ў складзе БССР спрыялі два розныя па сваім характары фактары. Першы — абвяшчэнне менавіта ў Смаленску незалежнай беларускай савецкай дзяржавы, другі — шырокае ўсведамленне адсутнасці рэальнай магчымасці ва ўмовах тагачаснай нацыянальнай палітыкі на Смаленшчыне захаваць сваю этнакультурную адметнасць ад русіфікатарскага ўплыву. І ў правільнасці такога ўсведамлення няма аніякіх прычын сумнявацца, бо калі ў сярэдзіне XIX стагоддзя палова насельніцтва Смаленшчыны лічыла сябе за беларусаў, дык на пачатку XX стагоддзя дзяржаўная статыстыка паказвала крайне нізкую ўдзельную вагу іх у агульнай колькасці насельніцтва. Не на чужой, а на бацькоўскай зямлі беларусу сцвердзіцца ў сваёй сапраўднай нацыянальнасці было куды больш цяжэй, чым палякам, літоўцам ці латышам Смаленшчыны. Адсюль зразумела жаданне многіх яе беларусаў увайсці ў склад БССР, дзе нацыянальна-культурнае адраджэнне тытульнага народа на пэўны час набыло статус дзяржаўнай палітыкі. Колькасць лістоў на адрас Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта (ЦВК) БССР з такім жаданнем асабліва павялічылася пасля праведзенай увесну 1924 года перадачы ёй ад РСФСР Віцебскай і Магілёўскай губерняў. Найчасцей з такімі просьбамі звярталіся вяскоўцы, нацыянальна-культурнае жыццё якіх яшчэ не да канца спляжыла русіфікацыя. Як толькі маглі ратаваліся ад яе сяляне Бахоцкай воласці Шышкоўскага раёна. Называючы сябе карэннымі беларусамі, яны выказвалі незадаволенасць за далучэнне іх у час тэрытарыяльнага размежавання да Смаленскага павета і ў сувязі з гэтым склалі на імя ЦВК БССР «приговор»… для выражения нашего искреннего желания о присоединении к Белорусской Советской Республике и для исходатайствования удовлетворения нашего желания ввиду того, главным образом, что мы не желаем отстать от своей национальности и своего коренного белорусского языка»[1]. Вось бы нам сёння паболей такіх сялян, рабочых, інтэлігенцыі, палітыкаў, тады не існавала б аніякіх праблем з выратаваннем беларускай мовы з-за паўсюднага засілля рускай, пра якую так па-бацькоўску дбае прэзідэнцкая вертыкаль. Аднак цалкам зразумелае, заканамернае жаданне нашых бранскіх, пскоўскіх, смаленскіх суродзічаў жыць па-беларуску як толькі маглі стрымлівалі мясцовыя савецкія і партыйныя органы Расійскай Федэрацыі, моцна абапіраючыся на ўжо не ў першым пакаленні зрусіфікаваную тамтэйшую інтэлігенцыю, асабліва настаўнікаў. Гэта найперш па іх віне ў многіх месцах не ўдалося задаволіць настойлівыя просьбы бацькоў аб заснаванні беларускамоўных школ.

Паслякастрычніцкая русіфікатарская палітыка на тэрыторыі Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны спрычынілася да таго, што на момант далучэння іх у 1924 і 1926 гадах да БССР яны значна адставалі ад апошняй паводле насычанасці культурнага жыцця беларускасцю. З пераходам у ліпені 1924 года да дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі яно імкліва пачало ўзмацняць свой нацыянальны патэнцыял і ва ўсходніх абласцях БССР. Першачарговую ўвагу звярнулі на павышэнне сацыяльнай ролі беларускай мовы і мелі пэўныя дасягненні ў гэтым.

Не будзе перабольшаннем сказаць: першыя савецкія дзесяць-пятнаццаць гадоў былі залатымі гадамі нацыянальных моваў СССР, якія зведалі столькі стратаў і пакутаў ад учыненай царызмам русіфікацыі. У народаў з’явілася ўпэўненасць, што яна ніколі больш не будзе пагражаць іх родным мовам. І ўладныя структуры, і само грамадства вельмі многае рабілі па забеспячэнні нацыянальным мовам як мага больш шырокага выкарыстання ва ўсіх сферах дзейнасці чалавека. Здавалася, навекі канулі ў Лету часы насмешак, знявагі да чужых моваў. Любячы, цэнячы сваё роднае слова, людзі з такой жа павагай ставіліся і да іншых моваў. Пацвярджаецца гэта

[1] Казлоў Леў, Цітоў Анатоль. Беларусь на сямі рубяжах. — Мінск, 1993. — С. 51.

і такім прыкладам. Калі ў маі 1925 года на VII Усебеларускі з'езд Саветаў запрасілі двух грузін Карчаулі і Тандэлашвілі з Тэлаўскага павета, апошні з іх смела дазволіў сабе звярнуцца да прысутных на сваёй роднай мове, што не выклікала якой-небудзь адмоўнай рэакцыі. Карчаулі ж выступаў па-руску. Прамоўца нагадаў, калі нядаўна Грузію і Кахецію наведаў старшыня ЦВК БССР А. Чарвякоў, там ён добрасумленна вывучаў грузінскую мову і пры ад'ездзе дамоў карыстаўся ёю падчас развітання, што выклікала бурныя авацыі ў людзей. Сваю прамову Карчаулі закончыў па-беларуску такімі словамі: «Няхай жыве саюз рабочых і сялян, няхай жыве Савецкая Беларусь! Няхай жыве Савецкая Сацыялістычная Федэрацыя!»[1]

Дасягнутыя з вялікай цяжкасцю ў выніку ажыццяўлення дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі пазітыўныя зрухі ў нацыянальна-культурным будаўніцтве ніколі не радавалі тых, хто некалі на гэтай зямлі ўдзельнічаў у правядзенні рознага роду мерапрыемстваў русіфікатарскага характару. З'яўляліся на свет і новыя прыхільнікі такога курсу, асабліва сярод накіраваных на Беларусь партыйных і савецкіх работнікаў, выпускнікоў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Атрымаўшы на новым месцы, як правіла, даволі прэстыжныя пасады, яны пры жаданні маглі сур'ёзна перашкаджаць ажыццяўленню дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі. Яе магутнае ўздзеянне на ўсе сферы жыцця, асабліва культурную, чым у першую чаргу і забяспечваўся бурны рост нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, выклікала трывогу ў правадыроў Маскоўскага крамля. З іх санкцыі ў канцы 20-х гадоў якраз і разгарнулася барацьба з тымі, хто не шкадаваў сілы дзеля хутчэйшага пераадолення цяжкіх паследкаў не толькі царскай, але ўжо ў некаторай ступені савецкай русіфікацыі, у якой і ў той час хапала прыхільнікаў у БССР, не выключаючы нават і саміх беларусаў.

Як след уціхамірыўшы шчырых змагароў за беларусізацыю, яе зацятыя ворагі вырашылі істотным чынам аслабіць пазітыўнае ўздзеянне беларускай мовы на культурнае жыццё, рост нацыянальнай самасвядомасці яе носьбітаў. Проста вытурацьбеларускую мову з грамадскага жыцця і замяняць яе рускай не адважыліся, бо гэта вельмі нагадвала б абрыдлую за многія гады нашаму народу палітыку царскай русіфікацыі. Да таго ж для даволі шырокага кола людзей не з'яўлялася сакрэтам, што арганізацыя

[1] Стенографический отчет VII Всебелорусского съезда Советов. — Минск, 1925. — С. 33.



дзяржаўнай дзейнасці у чужой, у дадзеным выпадку рускай, мове цалкам перакрэслівала б статус суверэннасці, незалежнасці БССР. У той жа час яшчэ з гэтай тэрміналогіяй трохі лічыліся. Таму прызналі за лепшае моўнае жыццё беларусаў русіфікаваць праз самую мову, паслядоўна падганяючы яе марфалагічна, фразеалагічна і лексічна пад рускую. Каб не ствараць канфліктаў у грамадстве з-за такой экзекуцыі з беларускага слова, вырашылі яе рабіць афіцыйна, у заканадаўчым парадку, прыцягваючы (каго-небудзь і гвалтам!) да гэтай справы вядомых філолагаў, пісьменнікаў, абавязаўшы іх строга прытрымлівацца ідэалагічнай устаноўкі бальшавіцкай партыі на дадзеную праблему. Так з'явілася ў жніўні 1933 года на свет нядобрай памяці пастанова СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу». Нават пры самым уважлівым прачытанні яе тут не знайсці хоць якіх-небудзь нязначных спрашчэнняў у беларускім правапісу. Хутчэй, наадварот. І гэта зразумела, бо галоўным у згаданай пастанове было падрыў яе адметнасці, набліжэнне да рускай мовы. Так, для велізарнай колькасці назоўнікаў мужчынскага роду роднага склону адзіночнага ліку на ўзор рускага правапісу канчатак «у» замянілі на «а». Таксама ж у адпаведнасці з гэтым правапісам трэба было пісаць не «аб гарадох», а «аб гарадах», не «непрыемнасцяў», а «непрыемнасцей», не «па-чалавечаму», а «па-чалавечы», не «па ўсім фронце», а «па ўсяму фронту», не «ўзапраўды», а «на самай справе» і г. д. У многіх беларускіх словах, таксама з мэтай падгонкі іх пад рускія, знік мяккі знак. «Рэформа 1933 году ўвяла ў беларускую мову каля 30-ёх фанэтычных і марфалагічных расейскіх асаблівасьцяў, жыўцом узятых з расейскае мовы, чужых і дагэтуль няўжываных у беларускай мове…»[1] Пасля рэформы няспынным патокам пацяклі ў беларускую лексіку тыповыя рускія словы, што дужа віталася дзяржаўнымі русіфікатарамі, блізкімі ім творцамі, хаця такім шляхам вельмі моцна размывалася яе нацыянальная аснова, істотна падрывалася адметнасць ад рускай мовы. Міне зусім мала часу і залежныя ад русіфікатараў рэдактары выдавецтваў, газет і часопісаў будуць абавязанымі пры працы над тэкстамі аўтараў з усіх беларускіх слоў-сінонімаў аддаваць перавагу таму з іх, якое сустракаецца і ў рускай мове. Такой жа практыкі патрабавалі прытрымлівацца ў публічных выступленнях. Непажаданым з'яўлялася выкарыстанне ў афіцыйным ужытку

[1] Станкевіч Станіслаў. Русіфікацыя беларускай мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу. — Мінск, 1994. — С. 26.

беларускіх слоў, што ўтрымліваліся і ў польскай лексіцы. Іх заносілі ў катэгорыю паланізмаў, не стараючыся як след разабрацца, да якой усё-такі мовы належалі — беларускай ці польскай. Даць правільны адказ на гэтае пытанне маглі толькі добра падрыхтаваныя спецыялісты, бо абмен лексікай, узаемаўплывы паміж гэтымі мовамі насілі двухбаковы характар. Як бачым, згаданая вышэй пастанова адкрыла шырокія магчымасці для мэтанакіраванай дзейнасці па русіфікацыі беларускай мовы, што пазбаўляла яе прыроднай прыгажосці і арыгінальнасці, немінуча вяло да страты этнакультурнай самабытнасці тытульнага народа БССР. Спробы нацыянальна-самасвядомай часткі беларускага грамадства, асабліва інтэлігенцыі, супрацьстаяць русіфікацыі яго роднай мовы не давалі станоўчых вынікаў. Гэтага здзеку яна не зведала толькі на далучаных да Польшчы беларускіх землях. Разам з тым, неабходна адзначыць, што пры ажыццяўленні ў тыя гады (пакуль што не самыя горшыя) сваіх планаў па стрымліванні, абмежаванні беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху і забеспячэнні належнай прасторы рускаму элементу савецкае і партыйнае кіраўніцтва ўсё ж не імкнулася да прыняцця кардынальных гвалтоўных, рэпрэсіўных захадаў, не жадаючы выклікаць зусім верагоднай незадаволенасці шырокіх колаў грамадства сваім вяртаннем да яшчэ незабытай русіфікацыі. Таму беларуская мова працягвала прысутнічаць у высокіх эшалонах улады. На гэтай мове выступалі старшыня ЦВК БССР Аляксандр Чарвякоў, старшыня Савета Народных Камісараў (СНК) БССР Мікалай Галадзед, хаця ўсё часцей ім у афіцыйных прамовах даводзілася гаварыць па-руску. Пэўная павага да нацыянальных моваў бачыцца і ў тым, што калі апошні з названых дзяржаўных дзеячаў 15 студзеня 1935 года рабіў справаздачу ўрада БССР XI Усебеларускаму з'езду Саветаў па-руску, закончыў яе словамі «Няхай жыве Беларуская Сацыялістычная Рэспубліка на беларускай, яўрэйскай і польскай мовах».

Паколькі палітыку русіфікацыі ў савецкай Беларусі праводзілі на дзяржаўным узроўні, існавала патрэба ў забеспячэнні кіраўнічых пасад уладных структур найперш асобамі рускай нацыянальнасці мясцовага паходжання ці прысланымі Масквой. Вось чаму з узмацненнем русіфікатарскай палітыкі так няўхільна пачала расці колькасць такіх асобаў, што станоўча адбівалася на маштабах яе ажыццяўлення. У час правядзення ў студзені 1935 года XI Усебеларускага з'езда Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў рускія складалі 13,2 працэнта ўсіх прысутных, што ў некалькі разоў перасягала іх удзельную вагу ў агульнай колькасці жыхароў БССР. Заўважу, што сярод дэлегатаў папярэдняга X Усебеларускага з'езда рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў (праходзіў у лютым 1931 г.) рускія складалі 10,3 працэнта. За гэты час доля беларусаў у складзе дэлегатаў зменшылася з 61,7 да 60 працэнтаў[1].

Як і трэба было чакаць, найцяжэйшыя выпрабаванні на беларускую культуру і мову выпалі падчас масавых фізічных расправаў бальшавікоў з «ворагамі савецкага народа». Гэты ярлык у першую чаргу начапілі на самую нацыянальна спелую частку беларускага народа, што істотна аслабіла яго супраціўленне савецкай дзяржаўнай русіфікатарскай палітыцы ў БССР. Пры поўнай маўклівасці, абсалютнай пакорлівасці людзей распачалася планамерная замена ва ўсіх сферах грамадскага жыцця беларускай мовы рускай. Не абмінуў гэты працэс і дзяржаўна-партыйнага, адміністрацыйнага справаводства.

Незадаволенасць такой моўнай метамарфозай была ў многіх, але пратэставаць ніхто не адважваўся, у тым ліку і ў педагагічных калектывах навучальных устаноў, хаця менавіта ад ролі роднай мовы ў іх у найбольшай ступені залежыць захаванне народа ў якасці самабытнага этнасу.

У Беларусі, як і ва ўсіх астатніх саюзных рэспубліках, буйнамаштабныя мерапрыемствы па прапагандзе ролі рускага слова, укараненні яго ў грамадскае жыццё пачалі праводзіцца ў парадку выканання прынятай 13 сакавіка 1938 года Саветам народных камісараў СССР і ЦК Усесаюзнай кампартыі (бальшавікоў) пастановы аб абавязковым вывучэнні рускай мовы ў агульнаадукацыйнай школе нацыянальных рэспублік. З 1938/39 навучальнага года руская мова стала галоўным прадметам і беларускамоўных школ.

Год ад году павялічвалася паступленне ў БССР з агульнасаюзных устаноў рускамоўнай літаратуры, перыядычных выданняў. З рускамоўных газет самой рэспублікі найбольшы тыраж меў «Рабочий». З кастрычніка 1937 года гэтая газета з'яўлялася органам ЦК КП(б)Б, а з красавіка 1938 года — органам ЦК КП(б)Б і Менскага абкама КП(б)Б. Умацаванню ролі рускага фактару ў перыядычным друку БССР паспрыяла і заснаванне газеты «Сталинская молодежь», першы нумар якой выйшаў 10 красавіка 1938 года (з 1956 г. атрымала назву «Знамя юности»). Газету як па індывідуальнай падпісцы, так і па выпісцы для бібліятэк актыўна

[1] Адзінаццаты Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў 14–22 студзеня 1935 г. — Мінск, 1935. — С. 638.

прапагандавалі ідэалагічныя службы кампартыі і камсамола, што адкрывала шырокую прастору для прыжывання рускай мовы ў моладзевых калектывах рэспублікі. Не толькі руска-, але і беларускамоўныя газеты рэспублікі шмат месца адводзілі раскрыццю ролі рускай культуры і мовы ў духоўным жыцці беларусаў, што аслабляла іх супраціўляльнасць русіфікацыі.

Усіх жанраў літаратура, перыядычны друк практычна ўхіліліся ад аб'ектыўнага асвятлення мінулага нашай Бацькаўшчыны, у чым найперш вінаваты ідэалагічны апарат бальшавісцкай партыі. Такую ж лінію займала яна і ў дачыненні да агульнаадукацыйных школ, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў. Іх значэнне як генератара нацыянальна-самасвядомых маладых пакаленняў беларускага народа сур'ёзна знізілася з-за выключэння з педагагічнага працэсу такога этнаўтваральнага прадмета, як айчынная гісторыя. Яе паасобныя фрагменты прысутнічалі толькі ў агульным курсе па гісторыі СССР. К канцу 30-х гадоў русіфікацыя навучальна-выхаваўчага працэсу ў вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы БССР так далёка зайшла, што партыйны цэнтр Маскоўскага крамля дазволіў яе ўладам трохі даць «задні ход». Такую магчымасць не так хутка і лёгка было выкарыстаць з-за вялікага дэфіцыту трывалай нацыянальнай пазіцыі палітыкаў і інтэлігенцыі, якіх пад самы корань вынішчылі савецкія масавыя фізічныя рэпрэсіі. Не жадала ісці насустрач нацыянальнаму інтарэсу тытульнага народа Камуністычная партыя бальшавікоў Беларусі, якую з 1938 года ўзначальваў ураджэнец Краснадарскага краю Панцеляймон Панамарэнка. Адсутнасць у яго і ў многіх іншых высокага рангу работнікаў ЦК КП(б)Б нават самых элементарных ведаў па беларускай мове абавязвала дзеля абслугоўвання партыйнай дзейнасці ў рэспубліцы ўжываць пераважна рускую мову. Партыйныя і савецкія органы БССР адразу ж распачалі ў тых ці іншых формах праводзіць русіфікатарскага парадку мерапрыемствы сярод насельніцтва далучанай да яе ад Польшчы ў верасні 1939 года Заходняй Беларусі, чаму садзейнічаў шэраг нямала-важных фактараў, пра што варта сказаць больш падрабязна.

Як вядома, царская палітыка русіфікацыі запусціла глыбокія карані нават на этнічнай польскай тэрыторыі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года і грамадзянскай вайны ў гэтым колішнім рэгіёне царскай імперыі сабралася нямала рускіх эмігрантаў, многія з якіх не толькі поўнасцю падзялялі нацыянальную палітыку імперскіх уладаў у дачыненні да нярускіх народаў, але і бралі актыўны ўдзел у яе правядзенні. Апынуўшыся ў вымушанай эміграцыі на тэрыторыі Польшчы, выхадцы з Расіі ўсяляк імкнуліся жыць паводле сваіх прыродных этнакультурных традыцый. Такому імкненню нельга даць іншай адзнакі, як толькі станоўчай, бо людзі, куды б іх непрадбачаны лёс не закінуў, не павінны забывацца на сваю нацыянальную існасць. Рускія эмігранты ў Польшчы, найперш іх інтэлігентныя колы, асобы дваранскага паходжання, значная частка чынавенства, спаўна адпавядалі такой якасці. Не забываліся яны і пра свой уплыў на шараговых рускіх уцекачоў, якія па самых розных прычынах сваё далейшае жыццё звязалі з Польшчай. Не з'яўлялася сакрэтам для палітыкаў і ідэолагаў рускай эміграцыі гэтай краіны, што тут, акрамя яе тытульнага карэннага насельніцтва, жыве яшчэ нямала ўкраінцаў і беларусаў, якія заўжды знаходзіліся ў цэнтры дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі. Найбольшыя дасягненні яна мела сярод праваслаўнай часткі гэтых народаў, у чым заслуга найперш самой царквы. Кіраўніцтва рускай эміграцыі не магло не ўлічваць дадзенага фактару ва ўсёй сваёй дзейнасці. Шматлікія факты пераканаўча сведчаць, што праваслаўная царква ні на ёту не адмовілася ад сваёй русіфікатарскай дзейнасці ў час, калі ў міжваенны перыяд значная тэрыторыя Беларусі знаходзілася пад уладай Польшчы. Падобная дзейнасць усяляк падтрымлівалася афіцыйнымі коламі, крайне нацыяналістычна настроенай часткай інтэлігенцыі, бо яны глядзелі на гэта, як на магутны сродак размывання нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, што толькі аблягчала іх інтэграцыю ў дзяржаўны польскі этнас.

Далёкай ад нацыянальнага інтарэсу карэннага насельніцтва Заходняй Беларусі дзейнасці і рускай эміграцыі, і праваслаўнай царквы паспрыяла стварэнне ў 1924 годзе ў Варшаве грамадскага аб'яднання «Русское благотворительное общество» (РДТ), функцыі якога зусім не абмяжоўваліся толькі працай з этнічнай рускай эміграцыяй. З мэтай распаўсюду рускага духу і сярод карэннага насельніцтва Заходняй Беларусі, пераважна праваслаўнага веравызнання, у яе гарадах функцыянавала дзесяць аддзяленняў РДТ, у тым ліку ў Гродне, Брэсце, Ваўкавыску, Навагрудку, Пінску, Слоніме. У склад Гродзенскага РДТ уваходзіла ад 180 да 250 чалавек[1]. У іх дзейнасці заўжды вельмі важнае месца займала заснаванне рускіх школ, бо, як даказана сусветнай практыкай, нішто так станоўча не ўплывае на фармаванне павагі маладых пакаленняў да традыцый свайго народа, як пабудаваная на нацыянальным грунце адукацыя.

---

[1] ЭГБ. — Т. 6. — Ч. I. — С. 138.

Шмат увагі надавалася арганізацыі рускіх бібліятэк. «Штогод аддзяленні адзначалі «Дзень рускай культуры», прымеркаваны да дня нараджэння А. С. Пушкіна. З гэтай нагоды ў Гродне выдавалася газета-аднадзёнка (назвы мяняліся — «Зарница», «Наш день», «Русский день» і інш.). У праграму «Дня» традыцыйна ўключаліся канцэрты рускай песні, тэатральныя спектаклі па творах А. С. Пушкіна, А. М. Астроўскага, А. П. Чэхава і інш.»[1]. Такая дзейнасць РДТ не забаранялася ўладамі Другой Рэчы Паспалітай, бо на яе справядліва глядзелі як на сродак стрымання нацыянальна-вызвольнага руху беларускага народа, перашкоду да яго этнічнай кансалідацыі. Што ж датычыць зусім рэальнага ўплыву русіфікацыі на пэўную частку беларусаў, дык гэта ўжо не ўяўляла сур'ёзнай пагрозы для Польшчы з-за дасягнення ёю несумненных поспехаў у правядзенні дзяржаўнай палітыкі паланізацыі на «ўсходніх крэсах». Праўда, крыху пазней, калі дзеля далейшага ажыццяўлення яе ўжо не мелася патрэбы, каб тут і яшчэ якія-небудзь сілы займаліся дэнацыяналізацыяй беларусаў, у сакавіку 1939 года ўлады Польшчы забаранілі дзейнасць большасці аддзяленняў і аб'яднанняў «Русского благотворительного общества». Аднак аж да Другой сусветнай вайны даводзілася лічыцца з рускім фактарам у свецкім і духоўным жыцці заходнебеларускага грамадства. Асабліва гэта адчувалася ў дзейнасці праваслаўнай царквы, якая стаяла практычна зусім у баку ад беларускага інтарэсу. Яе духавенства, калі гэтага вымушалі абставіны, куды ахвотней выкарыстоўвала ў набажэнстве польскую мову, чым беларускую.

У такім жа варожым беларускаму інтарэсу кірунку дзейнічала на «ўсходніх крэсах» і заснаванае ў 1926 годзе ў Варшаве грамадска-палітычнае таварыства «Русское национальное объединение» (РНО). Членамі яго з'яўляліся галоўным чынам самі рускія, а таксама ўкраінцы і беларусы праваслаўнай веры. РНО займалася абаронай правоў рускай меншасці, адстойвала яе інтарэсы перад уладай у пытаннях культуры і асветы, брала ўдзел у выбарчых кампаніях. Павятовыя і гарадскія арганізацыі гэтага аб'яднання «дзейнічалі ў Гродне (ад 200 да 300 членаў), Брэсце, Кобрыне, Пружанах, Століне і інш. (у беларускіх палескіх арганізацыях больш за 4 тыс. членаў і спачуваючых). Аб'яднанне выдавала газеты «Русский голос» (Львоў), «Искра» (Вільня)»[2]. Адной з галоўных яго акцый быў збор подпісаў за адкрыццё рускіх школ. Актыўная барацьба вялася супраць

[1] ЭГБ. — Т. 6. — Ч. I. — С. 138.

[2] ЭГБ. — Т. 6. — Кн. 1. — С. 138, 139.



замены ў набажэнстве аўтакефальнай праваслаўнай царквы Польшчы царкоўнаславянскай мовы польскай, што рабілася па ініцыятыве самой дзяржавы, таму дамагчыся жаданага поспеху арганізацыям РНО не так проста было, хаця ім не раз удавалася схіліць на свой бок немалую колькасць вернікаў.

На працягу ўсяго міжваеннага часу ў Заходняй Беларусі ажыццяўлялі актыўную дзейнасць створаныя рускай эміграцыяй у Другой Рэчы Паспалітай культурна-асветніцкія ўстановы і таварыствы. Зразумела, у іх дзейнасці нічога не было беларускага, хаця вялася яна і сярод носьбітаў такой культуры. У шэрагу гарадоў рускім эмігранцкім арганізацыям удалося ўключыць у сферу свайго ўплыву нямала носьбітаў рускай культуры з ліку тутэйшых беларусаў. Як толькі магла садзейнічала гэтаму Польская аўтакефальная праваслаўная царква, сярод кіраўнікоў якой хапала асобаў, шчыра адданых рускаму ідэалу. У розныя гады яна выдавала «Православный календарь», «Путь правды», «Слово», «В ограде церковной», «Вестник православной митраполии в Польше», «Воскресное чтение» і інш.[1] Выдаць жа што-небудзь з перыёдыкі па-беларуску ў яе не даходзілі рукі.

Рускі фактар не толькі не саступаў, а нават пераважаў над беларускім у дзейнасці баптыстаў, евангельскіх хрысціян. Прычыны тут розныя, адна з якіх — вяртанне на Бацькаўшчыну з бежанства людзей з рускіх раёнаў, дзе многія з іх прынялі веру баптыстаў і евангельскіх хрысціян рускага ўзору. Пры ад'ездзе дамоў яны імкнуліся захапіць з сабой як мага больш патрэбнай для спавядання прынятай на чужыне веры літаратуры, зразумела — рускамоўнай. Усе вядомыя ў міжваеннай Польшчы перыядычныя выданні гэтай канфесіі выходзілі на польскай і рускай мовах. Гэта — «Христианский союз», «Маяк». Першы з якіх выдаваўся Саюзам цэркваў Хрыстовых, другі — Саюзам баптыстаў. Да 1939 года рэдактарам названых часопісаў быў Даніла Ясько. Ён жа «напісаў трылёгію «Вера, Надежда, Любовь» на падставе біблійнага тэксту з Першага лісту да Карынцянаў і зрабіў паэтычны пераклад Псальмаў на расейскую мову»[2]. Разам з ёю беларускую мову выкарыстоўваў толькі пры складанні вершаў, многія з якіх былі вельмі папулярнымі сярод вернікаў. У песенным рэпертуары

[1] Тамсама. — С. 144.

[2] Пратэстанцкая царква і беларускі нацыянальны рух на пачатку XX стагоддзя. — Мінск, 2006. — С. 138.

і баптыстаў, і евангельскіх хрысціянаў панавалі рускамоўныя творы. Словам, дадзеную канфесію, як і праваслаўную ў Заходняй Беларусі, ніяк нельга залічваць у нацыянальны беларускі асяродак, бо ў іх было больш чужога, чым наскага. З чужым нават вярталіся дамоў беларусы з эміграцыі, бо там яны станавіліся баптыстамі, уваходзячы пераважна ў рускія рэлігійныя арганізацыі.

Заслугоўвае быць адзначаным, што на працягу ўсяго міжваеннага перыяду руская культура мела даволі трывалыя пазіцыі ў Вільні, хаця яна з даўняе пары зведвала моцны лаціна-польскі ўплыў, а цяпер ужо нават знаходзілася ў складзе Польскай дзяржавы. Тут ажыццяўлялі сваю дзейнасць Віленскае рускае таварыства, Віленскі Пушкінскі дом, з перыёдыкі выдаваліся «Русское слово», «Наше время», «Искра», «Новая искра», «Руль» і інш.

З вышэйсказанага добра відаць, што на момант усталявання савецкай улады на заходнебеларускіх землях у яе тут меліся даволі спрыяльныя варункі для планамернага замацавання рускага фактару. Трэба сказаць, што яны досыць паспяхова выкарыстоўваліся. Без усялякага прамаруджвання на далучанай ад Польшчы беларускай тэрыторыі новыя ўлады пачалі ствараць рускамоўныя ўстановы адукацыі і культуры, не заўсёды ўлічваючы нацыянальны склад насельніцтва. Не скупілася Масква на прысылку ў гэты край рускамоўнай прапагандысцкай, мастацкай, навуковай, навукова-папулярнай літаратуры, падручнікаў і дапаможнікаў, рускамоўных перыядычных выданняў. Кінатэатры амаль выключна дэманстравалі рускамоўныя мастацкія фільмы. Карацей кажучы, адсутнічаюць усялякія падставы сцвярджаць, што ў той складанай сітуацыі БССР рана ці позна сама ці па волі агульнасаюзных органаў вызвалілася б з кайданоў савецкай палітыкі русіфікацыі і атрымала б магчымасць развівацца паводле сваіх нацыянальна-культурных традыцый. Такога ў той час лёс не наканаваў нашаму народу.

Кароткі перадых ад русіфікацыі, дый то не на ўсёй тэрыторыі, Беларусь атрымала толькі падчас фашысцкай акупацыі (чэрвень 1941 — ліпень 1944 г.). З вяртаннем савецкай улады зноў ніякіх перамен да лепшага не назіралася ў яе нацыянальнай палітыцы. Наадварот, курс на далейшую русіфікацыю тытульнай нацыі БССР яшчэ больш узмацніўся. Усталяваны адразу ж пасля выгнання акупантаў палітычны рэжым ніколькі не лічыўся з нацыянальна-культурным інтарэсам карэнных жыхароў гераічнай партызанскай рэспублікі. Ён жорстка адпомсціў беларускай



мове за абслугоўванне дзейнасці створаных нямецкімі акупацыйнымі ўладамі цывільных адміністрацыйных органаў і службаў, прадпрыемстваў і ўстаноў.

Калі ў міжваенны перыяд русіфікатарам дапамагалі заганяць усё беларускае ў далёкі, цёмны закутак масавыя рэпрэсіі супраць нацыянальнай эліты, дык у першыя пасляваенныя гады — вымушаная эміграцыя велізарнай колькасці яе прадстаўнікоў на захад. Гнаў іх туды страх быць пакаранымі савецкім судом за супрацоўніцтва з акупантамі, часта вымушанае, а часта і неабходнае. Свежымі ў памяці заставаліся і даваенныя рэпрэсіі ў дачыненні да нацыянальна зарыентаванай інтэлігенцыі. Мала хто сумняваўся, што такая практыка не адновіцца і ў вызваленай ад немцаў Беларусі. Таму і пры незвычайна вострым голадзе яе на такую інтэлігенцыю многія як толькі маглі рваліся на захад з бацькоўскага дома. Тыя ж, хто заставаліся ў ім, не толькі з-за страху, але і паводле сваіх перакананняў не лічылі патрэбным пасіўна ці актыўна супраціўляцца дзяржаўнай палітыцы русіфікацыі. Думаю, зусім іншую па дадзеным лёсавызначальным пытанні пазіцыю занялі б інтэлегенты-ўцекачы. Яны, упэўнены, стараліся б не дапусціць запанавання рускага ўкладу хаця б у сваіх сем’ях, выхоўвалі б маладыя пакаленні ў духу нацыянальных культурна-моўных традыцый, ад якіх пад уздзеяннем рознага роду ідэалагічных фактараў недаравальна хутка пачалі адыходзіць многія беларусы, наносячы непапраўную шкоду свайму народу.

У вызваленых ад акупантаў раёнах на ўсе без выключэння дзяржаўныя і партыйныя гаспадарча-адміністрацыйныя пасады, на працу ва ўстановы культуры, адукацыі і навукі браліся людзі без уліку ведання імі беларускай мовы, што адкрыла шырокія магчымасці для адкамандзіравання на Беларусь работнікаў (пераважна кіраўнічага звяна) з іншых саюзных рэспублік. У пацвярджэнне сказанага прывяду такі факт: «Толькі ў 1944 г. ЦК партыі (СССР. — *Л. Л.*) падабраў і накіраваў на сталую працу ў БССР 429 чалавек. Звыш 10 з іх сталі сакратарамі абкамаў, 19 — загадчыкамі аддзелаў абкамаў, каля 40 — першымі сакратарамі райкамаў партыі»[1]. Паводле даных на 1 студзеня 1945 года, у агульным складзе КП(б)Б беларусаў было

[1] Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков. — Т. 3. — Минск, 1985. — С. 403.

толькі 46 працэнтаў[1]. Прычым іх крайне неахвотна вылучалі на высокія кіраўнічыя пасады. Больш за дзесяць пасляваенных гадоў ЦК КП(б) Б узначальвалі рускія па паходжанні, што вельмі негатыўна ўплывала на характар і змест нацыянальнай палітыкі. Кампартыі без асаблівых цяжкасцяў удалося даволі хутка і ў жаданых маштабах вярнуць на Беларусь даваенны рускі дух. Актыўна садзейнічалі яму тут шматлікія структурныя падраздзяленні спецслужбаў. Яны жорстка распраўляліся з тымі, хто жадаў мець Беларусь беларускаю. Імкнуліся ж да гэтай запаветнай мэты найперш неадарваныя ад нацыянальных каранёў прадстаўнікі інтэлігенцыі, моцна ўлюбёная ў сваю Бацькаўшчыну частка моладзі, хаця добра ведалі, што за такое іх можа чакаць суровае пакаранне. Цяжкія страты панесла створаная ў 1946 годзе ў Баранавіцкай вобласці моладзевая падпольная арганізацыя Саюз вызвалення Беларусі (СВБ). У маі 1947 года органамі Міністэрства бяспекі БССР было арыштавана 18 сяброў СВБ. Усіх іх ваенны трыбунал войск Міністэрства ўнутраных спраў БССР асудзіў на тэрміны ад 8 да 25 гадоў[2]. Такой жорсткай распраўай удалося не дапусціць у далейшым масавага ўдзелу патрыятычных сіл Бацькаўшчыны ў адстойванні беларускага нацыянальнага інтарэсу, якому ўсё больш і больш пагражалі цяжкія наступствы дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі. Калі пазней дзесьці іназіраліся праявы супраціву апошняй, яны былі не такімі моцнымі, каб паставіць надзейную заслону перад ёю. Тэарэтыкі і праваднікі такой палітыкі добра прылаўчыліся гэтую брудную справу ажыццяўляць рукамі саміх людзей пасля адпаведнай ідэалагічнай прамыўкі іх мазгоў. Ніжэй пра гэта будзе сказана больш падрабязна.

З сусветнай практыкі вядома, што спыніць, а ў лепшым выпадку і пакончыць з культурна-моўнай асіміляцыяй, удаецца толькі тады, калі сама дзяржава вядзе рашучае змаганне з ёю. У пасляваеннай Беларусі адсутнічала такая самастойная, суверэнная дзяржава. Усе найважнейшыя пытанні, у тым ліку і культурна-моўныя, вырашала за яе Масква, прычым не на карысць беларускага інтарэсу. Прапушчаныя праз густое сіта да партыйнага і савецкага, адміністрацыйна-гаспадарчага кіраўніцтва мясцовыя людзі хутка зразумелі, што ім не відаць сваёй роднай беларускай мовы ў грамадскім жыцці, што тут абавязкова зацвердзіцца руская мова, дзеля чаго ўжо робяцца ўсе неабходныя захады. Каб не быць пазбаўленымі прэстыжных, параўнальна з іншымі добра аплатных кіраўнічых пасад з-за кепскага ведання рускай мовы (а праблемы з гэтым меліся), вылучаныя на іх людзі самі, без усялякага прымусу праяўлялі даволі высокую актыўнасць да яе авалодвання. У ход было пушчана ў аднолькавай ступені і памылковае, і шкоднае меркаванне, што хутчэй, на больш высокім узроўні гэтую праблему можна развязаць праз выключэнне беларускай мовы і з грамадскага жыцця, і з міжасобасных кантактаў людзей. І ад такой бяды, такой несправядлівасці яна не ўхіліліся.

Прынята лічыць, і думаю, правільна, што чужой мовай чалавек дасканала валодае толькі тады, калі яе словы і выразы з мэтай поўнага разумення, асэнсавання не перакладае на родную мову. Жыццё ў пасляваеннай Беларусі патрабавала ад палітычных дзеячаў, інтэлігенцыі менавіта дасканалага, а не павярхоўнага ведання рускай мовы, бо яна дзякуючы стараннням партыйных і савецкіх органаў станавілася адзінай па абслугоўванні ўсіх сфераў грамадскай дзейнасці чалавека, — а галоўнае — у ажыццяўленні працэсу навучання ў вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школе. Самая адукаваная і палітычна актыўная частка грамадства стала няўхільна праз абавязковае для службы авалоданне рускай мовай забывацца на сваю родную беларускую мову. Такая ж надзвычай шкодная моўная трансфармацыя адбывалася і ўжо ў першыя гады вучобы вясковай беларускамоўнай моладзі ў суцэльна рускамоўных у рэспубліцы вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах.

І тым не менш праблемаў з давядзеннем русіфікацыі карэннага насельніцтва БССР да поўнага завяршэння існавала процьма. Беларускамоўным заставаўся ж такі масіўны пласт яго, як вясковыя жыхары, на якіх у свой час «апякліся» ідэолагі і непасрэдныя праваднікі палітыкі паланізацыі і царскай русіфікацыі. І асноўная прадукцыйная сіла гарадоў — рабочыя, паколькі яны былі пераважна выхадцамі з мясцовых вёсак, таксама з'яўляліся беларускамоўнымі. Навярнуць іх у рускую культуру і мову — працэс зусім не кароткатэрміновы і не лёгкі. Такога не маглі не ведаць, хто ў пасляваеннай Беларусі стаяў ля стырна дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі.

Вось так даволі ціха, спакойна ў пасляваенны час на беларускай зямлі распачаўся не без прэтэнзій на масавасць моўны эксперымент, пра трагічныя наступствы якога, відаць, мала хто, у т. л. з палітыкаў і інтэлігенцыі, задумваўся. Паводле ўсіх пазіцый стратную моўную

[1] Коммунистическая партия Белоруссии в цифрах. 1918–1978. — Минск, 1978. — С. 102.

[2] ЭГБ. — Т. 6. — Кн. 1. — С. 249.

сітуацыю, якая проста не магла бясшкодна не паўплываць на беларускую нацыю, ніхто з іх не пастараўся змяніць у лепшы бок. Гэтыя ўплывовыя катэгорыі грамадства, напэўна ж, былі знаёмыя з трапным выразам «правадыра сусветнага пралетарыяту» Карла Маркса з кнігі «Васемнаццатае брумера Луі Банапарта»: «Нацыі і жанчыне не даруецца хвіліна промаху, калі першы сустрэчны авантурыст можа ўтварыць над імі гвалтоўніцтва і авалодаць імі» (Мінск, 1946. С. 13), але дапусцілі не проста хвіліну промаху ў пытаннях рэгулявання моўных працэсаў, але цалкам аддалі іх пад уладу далёкім ад карэнных інтарэсаў Бацькаўшчыны функцыянерам, а затым яшчэ і самі свядома перайшлі да мэтанакіраванай палітыкі культурна-моўнай русіфікацыі беларускага народа, узносячы да нябёсаў прагрэсіўную ролю рускай, а не роднай мовы ў яго лёсе. Многім з апалагетаў бальшавіцкай нацыянальна-культурнай, моўнай палітыкі, якім давялося дажыць да гарбачоўскай перабудовы, стаць сведкам, а часам і актыўным удзельнікам чарговага беларускага адраджэнскага руху канца 80-х—пачатку 90-х гадоў, напэўна ж, сорамна за сваё непасрэднае — няхай сабе і чыста тэарэтычнае — прычыненне да дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі пасляваеннага перыяду. Яе архітэктарам вельмі падабалася, што ў сваіх філалагічных працах навукоўцы пісалі пра нечуваны росквіт беларускай мовы, ніколькі не зважаючы на катастрафічнае звужэнне яе сацыяльных функцый як вынік русіфікатарскай палітыкі.

Несумненна, вялікай удачай ідэолагаў і непасрэдных удзельнікаў русіфікацыі ў БССР трэба лічыць даволі паспяховае выкараненне з яе вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы ўсяго таго, што несла з сабой высакародны ідэал беларускасці і найперш беларускай мовы, айчыннай гісторыі. Апошнюю сталі вывучаць толькі пазней дый то не такую, якой яна была ў сапраўднасці, што не садзейнічала фармаванню ў маладых пакаленняў нацыянальнай гістарычнай памяці, гістарычнай свядомасці. Пры адсутнасці ж такіх якасцяў людзі не здольныя да супраціву любой форме культурна-моўнай асіміляцыі, у тым ліку і русіфікацыі.

Што ж датычыць моўнай практыкі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, дык яна ў першы ж год іх дзейнасці ў вызваленай ад акупантаў Беларусі нічога агульнага не мела з яе нацыянальнай мовай. Рабочай у гэтых установах органы асветы зацвердзілі рускую мову, што пазней забяспечыла ёй шырокае распаўсюджванне ў педагагічным працэсе агульнаадукацыйных школ. Каб хутчэй завяршыць гэты антынацыянальны працэс, да яго партыйныя і савецкія органы супольна з кіраўніцтвам



органаў асветы і школ сталі актыўна далучаць бацькоў школьнікаў, усяляк пераконваючы ў перавагах рускамоўнага навучання. Вынікі атрымаліся такімі, на што разлічвалі русіфікатары, бо мала хто з бацькоў хацеў, каб у дзяцей пасля заканчэння беларускамоўных агульнаадукацыйных школ узніклі сур'ёзныя праблемы з паступленнем і вучобай у больш высокай ступені рускамоўных навучальных установах. Ужо к канцу 50-х гадоў дзякуючы стварэнню і дзейнасці такой варожай нацыянальнаму інтарэсу сістэмы народнай адукацыі дзяржаўныя русіфікатары мелі ўсе падставы спадзявацца, што ў беларускага народа адсутнічае ўсялякая магчымасць захаваць у далейшым сваю этнічную самабытнасць. І яны не памыліліся.

Усё большую прастору на Беларусі заваёўвала руская мастацкая, навуковая, публіцыстычная, службовага характару літаратура, рускамоўны перыядычны друк. Дасягалася такое не толькі праз пасылку ў БССР названых жанраў літаратуры, перыёдыкі, але і масавы выпуск іх на месцы. Згодна з прынятай у жніўні 1944 года пастановай УсеКП(б)Б «Аб бліжэйшых задачах партыйных арганізацый КП(б)Б у галіне масава-палітычнай і культурна-асветніцкай работы сярод насельніцтва» патрабавалася забяспечыць кожную хату-чытальню цэнтральнымі газетамі — «Правда» або «Известия», «Социалистическое земледелие», часопісамі «Спутник агитатора», «Крестьянка»[1]. Гэтай пастановай прапаноўвалася Цэнтральнаму камітэту ленінскага камсамольскага саюза моладзі (ЦК ЛКСМБ) арганізаваць выданне рускамоўнай газеты «Сталинская молодежь» тыражом 20 тыс. экзэмпляраў, перыядычнасцю тры разы на тыдзень і беларуска-рускамоўнай газеты для дзяцей «Піянер Беларусі» («Пионер Белоруссии») тыражом кожнай з іх 10 тыс. экзэмпляраў, перыядычнасцю адзін раз на тыдзень. Нельга не звярнуць увагу на аднолькавую велічыню тыражу гэтай беларуска- і рускамоўнай газеты, хаця ў той час у школах рэспублікі значна больш дзяцей навучалася па-беларуску, чым па-руску. У згаданай пастанове прадугледжвалася пасылка на Беларусь на сталую працу значнай колькасці прапагандысцкіх кадраў, работнікаў культуры, зразумела, рускамоўных. Створаны ў 1944 годзе Брэсцкі абласны драматычны тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі цалкам складаўся з выпускнікоў Маскоўскага гарадскога тэатральнага вучылішча. Менавіта

[1] КПСС в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. 1938–1945. — Т. VII. — М., 1985. — С. 510.

яны і заклалі ў гэтым заходнім беларускім горадзе падваліны для развіцця тэатра рускай нацыянальнай драматургіі.

Партыйныя і савецкія органы Беларусі з зайздроснай паслядоўнасцю праводзілі выпрацаваную ў Маскве лінію ў галіне культурнага жыцця. Так, у Заходняй Беларусі, да прыкладу, многія раённыя, а таксама абласныя газеты «Гродненская правда», «Заря» (Брэст) сталі выдаваць на рускай мове. А яшчэ раней, у ліпені 1944 года, на гэтую мову перавялі орган ЦК КП(б)Б, СНК і Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР газету «Савецкая Беларусь» (да 10 красавіка 1943 г. з’яўлялася органам ЦК і Мінскага абкама КП(б)Б), якая з кастрычніка 1941 года выдавалася па-беларуску нават у гарадах Расійскай Федэрацыі. З верасня 1948 года беларускамоўны штомесячны тэарэтычны і палітычны часопіс ЦК КПБ «Бальшавік Беларусі» пачалі выдаваць і па-руску. З 1965 года ён ужо цалкам пярройдзе на рускую мову (з лістапада 1952 г. атрымаў назву «Камуніст Беларусі»). У пасляваенныя гады толькі на дзвюх мовах (беларускай і рускай) выходзіла прызначаная для працаўнікоў вёскі газета «Савецкі селянін», з кастрычніка 1952 года атрымала назву «Калгасная праўда», з 1962 года — «Сельская газета» і ад гэтага часу, г. зн. на другі гадзе пасля прыняцця ў новай рэдакцыі Праграмы камуністычнай партыі СССР, цалкам перайшла на рускую мову. Роля гэтага друкаванага органа Савета міністраў БССР, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і ЦК КП(б) Б у русіфікацыі самых моцна інтэграваных у беларускасць вяскоўцаў надзвычай вялікая. Абсалютная бальшыня публічных, ведамасных часопісаў, што пачалі выходзіць на Беларусі ў пасляваенны час, рабочай мовай мелі рускую, што садзейнічала яе далейшаму распаўсюджванню ў народзе за кошт непазбежнага змяншэння грамадскага ўжытку яго роднай мовы, на што якраз і скіроўвалася дзяржаўная палітыка русіфікацыі.

Усе пасляваенныя гады галоўным інструментам такой палітыкі з’яўлялася рускамоўная вышэйшая і сярэдняя спецыяльная школа. Быць залічаным у яе мог толькі той, хто паспяхова вытрымаў уступны іспыт па рускай мове, г. зн. чужой для беларусаў. Яе, як галоўны прадмет, здавалі пры паступленні ва ўсе тыпы сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў. Такія абставіны вымушалі будучых абітурыентаў без якога-небудзь прамога ўздзеяння з боку ідэалагічнага апарату старанна вывучаць рускую мову ў школе і ў час падрыхтоўкі да здачы ўступнага іспыту па ёй, г. зн. займацца, па сутнасці, самарусіфікацыяй. Не ўсім, асабліва вучням сельскіх агульнаадукацыйных школ, удавалася здабыць патрэбны ўзровень ведаў па рускай мове і паступіць на вучобу ў тэхнікум ці інстытут. Вось так чужая мова крышыла лёсы незлічонай колькасці беларускіх юнакоў і дзяўчат. З такім трагізмам не даводзілася мець справу моладзі ніводнай краіны свету. Нават і думкі не дапускалася, каб французу зачыніць шлях у абраную навучальную ўстанову сваёй краіны з-за неваладання нямецкай моваю, немцу — французскай, італьянцу — іспанскай, іспанцу — італьянскай… Толькі ў саюзных і аўтаномных рэспубліках СССР ад ведання чужой для іх карэннага насельніцтва рускай мовы залежаў лёс маладых пакаленняў — будучага кожнай нацыі.

За параўнальна кароткі тэрмін рускамоўная вышэйшая і сярэдняя спецыяльная школа Беларусі карэнным чынам змяніла культурна-моўную прыроду інтэлігенцыі — галоўнага нацыянальнага чынніка кожнага народа, толькі, на вялікі жаль, не беларускага. Папаўняючы сабой беларускае грамадства, выпускнікі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў садзейнічалі гэтым самым распаўсюджванню атрыманых падчас вучобы рускіх культурна-моўных стандартаў. З такімі ж стандартамі прыбывалі на Беларусь выпускнікі ВНУ і СНУ іншых рэспублік. Спачатку такімі здэнацыяналізаванымі інтэлігентамі папаўнялася ў асноўным гарадское насельніцтва, а пазней і сельскае. Менавіта ім апошняе у значнай ступені абавязана паступовым адыходам ад роднай мовы. Ад такіх гора-інтэлігентаў многія вяскоўцы запазычылі рускамоўныя назвы месяцаў года, навучыліся на цыбулю казаць лук, на буракі — свёкла, на канюшыну — клевер, на калгас — калхоз і г. д. Пераважна рускамоўнае радыё і тэлебачанне істотна аслабілі пазіцыі беларускай традыцыйнай культуры.

У такіх варунках траціласяпрэстыжнасць беларускасці ўсюды, дзе толькі яна пакуль што захоўвалася. Асаблівыя нараканні ў людзей былі на беларускамоўныя агульнаадукацыйныя школы з-за іх тупіковага характару, паколькі больш высокай ступені навучальныя ўстановы карысталіся рускай мовай. Партыйныя і савецкія органы, як правіла, не толькі падтрымлівалі, але і ўсяляк спрыялі зараджэнню такіх настрояў у бацькоў, каб супольна з імі нанесці скрышальны, канчатковы ўдар па гэтым важным беларускім асяродку. Таму і не дзіва, што ўжо пад канец 60-х гадоў амаль не засталося аніводнай беларускамоўнай агульнаадукацыйнай школы нават у райцэнтрах рэспублікі. Вялікая трагедыя гэтай з’явы заключалася ў тым, што да такіх антынацыянальных учынкаў яна падштурхоўвала і сельскае насельніцтва з яго спрадвечным беларускім укладам жыцця.

Русіфікатараў нязменна цікавілі змест і характар выхаваўчай працы з самымі маленькімі дзецьмі з тым, каб не ўзнікала праблема з рускай мовай пры паступленні ў першы клас агульнаадукацыйнай школы, каб беларусы ўжо з маленства актыўна і свядома далучаліся да рускага ўкладу жыцця. На вялікі грэх, такое скрозь дасягалася. Педагагічныя калектывы і дзяржаўных, і ведамасных дашкольных устаноў з жаданай аддачай працавалі на карысць русіфікацыі, прычым нават і ў тых з іх, адкуль дзеці паступалі вучыцца ў беларускамоўныя школы. Як і ва ўсіх падобных выпадках, русіфікатарскую дзейнасць дашкольных устаноў старанна ўтойвалі ад грамадскасці. Упершыню моўны фактар у іх практыцы пранік на старонкі афіцыйных статыстычных даведнікаў толькі ў 1990 годзе, калі трэба было паказаць людзям, як ідзе ажыццяўленне прынятага на пачатку гэтага года закона «Аб мовах у Беларускай ССР». А ішло яно няблага: ужо ў 1990 годзе ў 13,9 % агульнай колькасці такіх устаноў выхаваўчы працэс вёўся на беларускай мове супраць 0,5 % у 1987 годзе, адпаведна на беларускай і рускай мовах — 35,5 і 18,3, рускай — 50,6 і 81,2[1]. 1987 год, як вядома, гэта трэці год гарбачоўскай перабудовы, а дашкольныя ўстановы па-ранейшаму працягвалі ўзгадоўваць беларускіх дзяцей на чужых рускіх культурна-моўных традыцыях.

Такім нацыянальна знявечаным у выніку дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі стала к сярэдзіне 80-х гадоў беларускае грамадства. Аднак ніхто не збіраўся ставіць кропку, бо пэўныя адрозненні ў культурным жыцці беларусаў і рускіх захоўваліся і, значыць, было яшчэ што уніфікаваць. Новае ў далейшай палітыцы дэнацыяналізацыі беларускага народа заключалася ў тым, што цяпер ужо партыйнаму цэнтру ў Маскоўскім крамлі не трэба было для ажыццяўлення такой задумы камандзіраваць у наш край сваіх людзей, як гэта калісьці рабіў царскі ўрад, а ў паслярэвалюцыйны час ЦК УсеКП(б)Б. Заўзятых праваднікоў курсу КПСС на зліццё савецкіх народаў, іх культур і моваў ужо хапала ў асяроддзі самой беларускай партыйнай і дзяржаўнай эліты. Хапала іх і сярод прадстаўнікоў інтэлігенцыі, асабліва тых, хто дзякуючы сваёй адданасці партыі займаў высокія кіраўнічыя пасады ў навуцы, культуры і адукацыі. Прыкра становіцца на душы, што з-за боязі перад Маскоўскім крамлём, істотнай дэфармацыі нацыянальнай самасвядомасці ў нас ніхто з першых партыйных і дзяржаўных

---

[1] Народное хозяйство Белорусской ССР в 1990 г. Стат. ежегодник. — Минск, 1991. — С. 117.



асобаў Беларусі не асмеліўся, не пажадаў стаць на абарону яе карэннага насельніцтва ад русіфікацыі. У іншых жа рэспубліках такія асобы былі, чым сёння толькі ганарацца іх народы. Невылечна хворы на нацыянальны нігілізм, моцна адарваны ад культурна-моўных традыцый народа дзяржаўны лідэр — гэта найвялікшая трагедыя для любой краіны, што добра зведала Беларусь у савецкія часы. Таму зусім не выпадкова, што на час гарбачоўскай перабудовы, якая пачалася ў сярэдзіне 80-х гадоў, ніводзін з народаў саюзных рэспублік не быў так здэнацыяналізаваны, як беларусы. Ніхто ў такой ступені, як яны, з-за амаль поўнага вывядзення русіфікатарамі беларускай мовы з усіх сфераў дзейнасці чалавека, з-за татальнага запанавання рускага фактару ў адукацыі, культуры, навуцы не былі так добра падрыхтаваны да жыцця ва ўяўным светлым безнацыянальным камуністычным грамадстве. Калі ж разабраліся, што ўсё гэта блеф, савецкія народы рашуча ўзяліся за рамонт сваіх нацыянальных дамоў, чаму не толькі не перашкаджаў, а, наадварот, спрыяў курс М. Гарбачова на перабудову.

Не мог заставацца ў баку ад ахопленага ўсе саюзныя рэспублікі нацыянальна-адраджэнскага працэсу беларускі народ. Праўда, з-за сваёй самай высокай сярод астатніх народаў ступені зрусіфікаванасці ён далучаўся да такога працэсу вельмі павольна, з аглядкай па баках. Да таго ж яшчэ і сам нацыянальна-адраджэнскі рух на Беларусі ў многіх месцах — дзе выпадкова, а дзе і свядома — узначалілі нядаўнія русіфікатары. Таму ляцелі год за годам, а руская мова працягвала панаваць у службовым справаводстве, навучальных установах усіх тыпаў. Нікольк неназіралася зніжэння ролі рускага фактару ў прафесійных пластах культуры, у навуцы, сродках масавай інфармацыі Беларусі. Яна на некалькі парадкаў саступала ўсім сваім суседнім былым саюзным рэспублікам па маштабах і тэмпах адраджэння і адбудовы нацыянальнага духоўнага жыцця. Узяцца больш рашуча за развязванне гэтай лёсавызначальнай праблемы ніяк не выпадала з-за дэструктыўных дзеянняў праціўнікаў беларусізацыі, якія пакуль што знаходзіліся на самых высокіх дзяржаўных пасадах і ў стане былі не даць належнага ходу нацыянальна-культурнаму Адраджэнню. Па сутнасці яно ажыццяўлялася толькі ў такіх тэмпах і маштабах, як таго жадаў дзяржаўны чыноўніцкі апарат, і не несла з сабой ніякага рэальнага абмежавання панавальнай прысутнасці рускаму фактару на Беларусі. Гэтаму адарванаму ад нацыянальных ідэалаў апарату ўдалося ў ліпені 1994 года забяспечыць абранне на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь асобы цвёрдай

прарускай арыентацыі Аляксандра Лукашэнку і самому супакоіцца, што цяпер ужо ніхто не абавяжа чыноўнікаў (у большыні выпадкаў былых русіфікатараў) авалодваць беларускай мовай, каб заставацца на прэстыжных, высокааплатных пасадах у органах улады і кіравання. Яшчэ больш паспакайнела на душы ў чынавенства пасля ўсталявання прэзідэнцкага рэжыму кіравання краінай.

## ПРЭЗІДЭНЦКАЯ

Першым у нашай айчыннай гісторыі прэзідэнтам краіны стаў 10 ліпеня 1994 года Аляксандр Лукашэнка. Ён вельмі хутка выявіў далёка не зычлівае стаўленне да роднай мовы яе тытульнага народа, што з'яўляецца выключна рэдкім выпадкам у сусветнай практыцы. Звычайна самая першая ў краіне дзяржаўная асоба — гэта ў найвышэйшай ступені свядомы, шчыры носьбіт яе прыродных нацыянальна-культурных, моўных традыцый, а не якіх-небудзь занесеных сюды звонку чужымі палітычнымі рэжымамі духоўных каштоўнасцяў, хаця апошнія могуць высока ацэньвацца сусветнай цывілізацыяй. Размаўляць не на роднай мове ніколі не лічылася за гонар для палітычнага лідэра дзяржавы.

У адрозненне ад выключна ўсіх створаных на постсавецкай прасторы краінах на Беларусі вельмі марудна ажыццяўляліся нацыянальна-адраджэнскія працэсы ў культурнай сферы, хаця для гэтага меліся неблагія передумовы. У першую чаргу за іх практычнае выкарыстанне павінна была б рашуча ўзяцца творчая інтэлігенцыя і ўсяляк схіляць да актыўнай нацыянальнай дзейнасці дзяржаўны апарат, бо русіфікацыя беларускага народа так глыбока пранікла ў яго арганізм, што аднымі высілкамі шчыра адданых Бацькаўшчыне колаў грамадства нельга было саўладаць з гэтай цяжкай хранічнай хваробай. У больш-менш масавым парадку беларуская інтэлігенцыя ў перадпрэзідэнцкія гады так і не стала сапраўдным рухавіком нацыянальна-культурнага Адраджэння, так да канца і не ўсвядоміла гістарычнага значэння хутчэйшага вяртання ў афіцыйнае жыццё роднай мовы тытульнай нацыі як найважнейшага фактару яго самабытнага этнакультурнага развіцця. Як высветлілася на практыцы, нацыянальнай актыўнасці элітарных колаў беларускага грамадства пачатку 90-х гадоў было крайне недастаткова для дасягнення па-сапраўднаму велічных лёсавызначальных мэтаў, да якіх, несумненна, належала забеспячэнне беларускай мове статусу рэальна адзінай дзяржаўнай у краіне.

Магчыма, так занадта строга і нельга дакараць нашую інтэлігенцыю за праяўленую пасіўнасць па ўводзе беларускай мовы ў дзейнасць дзяржаўнага апарату, уключаючы і тую частку яе (інтэлігенцыі), што знаходзілася на службе ў розных эшалонах улады. Перашкодаў жа гэтаму

нямала чынілі ўсіх часоў русіфікатары, а хтосьці з нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі як след не разумеў значэння самога фактару выкарыстання роднай мовы беларускага народа ў афіцыйным жыцці. Данясі да іх розуму слушныя словы рускага фальклярыста-славіста, крытыка літаратуры Пятра Бяссонава (1828–1898) «…у каго ў руках слова народа, у таго думка і жыццё народа, у таго «рука ўладная» і завецца яна ўжо не кулаком, а рукою кіравання»[1], магчыма, беларуская мова паступова ўвайшла б, замацавалася б у апартаментах дзяржаўнай улады. Дапамаглі ж пазбавіць яе такога законнага права і многія сваёй гадоўлі русіфікатары.

Заклапочаныя далейшым лёсам нацыянальнай культуры людзі з вялікім хваляваннем чакалі таго дня, калі прэзідэнт краіны, паклаўшы руку на Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, будзе прысягаць свайму народу. Усе ж ведалі, што прэзідэнт у публічных выступленнях карыстаўся толькі рускай мовай.

Нацыянальныя патрыёты з палёгкай уздыхнулі, калі пачулі, што прэзідэнт краіны прыносіць клятву на яе роднай мове. Меркавалася, што рана ці позна апошняя і для яго стане рабочай. Аднак не мінула і паўгода, як падчас публічных выступленняў прэзідэнт пачаў даводзіць прысутным пра неразвітасць, недасканаласць юрыдычна адзінай тады ў краіне дзяржаўнай мовы — беларускай. А ёй жа, беднай, не прывыкаць да падобнай знявагі. Было ж і такое, што пэўныя колы з суседзяў-славян называлі яе «хамскай» ды «мужыцкай». Аднак дапусцім такое, што на час, калі стаў А. Лукашэнка першай дзяржаўнай асобай у краіне, яе нацыянальная мова і сапраўды належала да катэгорыі неразвітых і недасканалых (з іншымі ж мовамі падобнае здаралася). Дык ці трэба дакараць яе за гэта? Ці не лепш было б з дапамогай спецыялістаў грунтоўна разабрацца ў прычынах зусім рэальнага сур'ёзнага застою ў развіцці беларускай мовы (а яны галоўным чынам палягаюць у запозненым уключэнні яе ў літаратурны працэс, у мэтанакіраваным недапушчэнні да абслугоўвання службовага справаводства, навукі, навучальна-выхаваўчага працэсу вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы, у сімвалічнай прысутнасці ў многіх элітарных пластах прафесійнай культуры) з тым, каб дзеля выпраўлення такога становішча неадкладна выкарыстаць усю магутнасць прэзідэнцкай улады?.. Суверэнную Рэспубліку не для таго ж стварылі, каб узаконіць статус-кво ў дэнацыяналізацыі яе культурнага жыцця, а затым

[1] Бессонов П. Белорусские песни. — М., 1871. — С. LXIX.



пад несціханыя апладысменты Масквы шырокім гасцінцам імкліва рухацца далей да жаданых вышыняў русіфікацыі, асядлаўшы ўсім дзяржаўным чыноўніцкім апаратам рускую мову.

Пасля абрання першага прэзідэнта краіны не існавала аніякай патрэбы ў змяненнях дзяржаўнай моўнай палітыкі, якая цалкам адпавядала міжнародным стандартам. Датычыла гэта і галоўнага артыкула прынятага 26 студзеня 1990 года Закона «Аб мовах у Беларускай ССР», якім беларускай мове надаваўся статус адзінай дзяржаўнай. Праўда, рэалізацыі гэтага артыкула моцна супрацьдзейнічалі добра зрусіфікаваныя за савецкім часам палітыкі і шматлікая па колькасці частка інтэлігенцыі, на баку якіх стаяў і прэзідэнт. Ён не раз публічна заяўляў, што быў ініцыятарам правядзення ў маі 1995 года, г. зн. пасля дзесяці месяцаў знаходжання на прэзідэнцкай пасадзе, рэферэндуму, у адпаведнасці з вынікамі якога статус дзяржаўнай юрыдычна надалі і рускай мове. І прэзідэнту было чым ганарыцца: чыноўніцкі апарат, атрымаўшы такую рэдкую магчымасць, за год-два вярнуў рускай мове тое панавальнае становішча ў грамадскім жыцці Беларусі, якое ёй з дапамогай бальшавіцкай партыі ўдалося здабыць за савецкім часам. На Беларусь ва ўсім сваім пышным убранні вярнулася абрыдлая нацыянальна зарыентаванай частцы народа Дзяржаўная Палітыка Русіфікацыі. Прычым вярнулася ў новай, дагэтуль невядомай, якасці. Цяпер ужо праводзілі яе (русіфікацыю) не па ўказцы ідэалагічнага апарату ЦК КПСС ці якога-небудзь іншага ўплывовага агульнасаюзнага органа, а па ўласнай ініцыятыве. У такіх умовах куды лягчэй прыйсці да жаданай мэты, бо на месцы намнога лепш, чым здалёку, відаць, за што і як трэба брацца, каб хутчэй зруйнаваць не толькі падваліны, але і ўсё само ўладам непатрэбнае беларускае нацыянальнае жыццё. Дасягненні прэзідэнцкай вертыкалі і сапраўды тут «гістарычныя». Вопыту знішчэння культурна-моўнай адметнасці ўласнага народа і франтальнаму пераводу яго на чужы лад жыцця назапашана так багата, што калі ў дзяржаўных уладаў якіх-небудзь краін узнікне дурное жаданне загубіць іх этнічную самабытнасць, трэба, доўга не думаючы, ехаць на Беларусь. Тут ім ахвотна, без усялякай аплаты дапамогуць у гэтым і палітыкі, і ўзятая імі на службу інтэлігенцыя.

Падчас правядзення майскага рэферэндуму 1995 года беларускія палітыкі, бясконца адданыя ім афіцыйныя ідэолагі ведалі з міжнароднай практыкі, як высока цэніцца, як па-бацькоўску ахоўваецца мова тытульнай нацыі кожнай краіны. Але нашыя прамаскоўскіх настрояў гора-дзеячы не

жадалі лічыцца з такой разумнай практыкай. Што ім было да таго, што Вярхоўным Камісарыятам па пытаннях французскай мовы забойства мовы нацыі лічыцца найвялікшым з усіх злачынстваў. Падобнага роду ацэнкі ролі нацыянальнай мовы нескладана прывесці і па іншых краінах. Улады ж суверэннай Беларусі, наадварот, мелі мэтай рэферэндумам выцесніць адусюль яе нацыянальную мову, замяніўшы рускай. І такое злачынства ім удалося, за што на працягу некалькіх гадоў атрымлівалі расійскія энерганосьбіты па зніжаных цэнах.

На самым старце прэзідэнцкай русіфікатарскай палітыкі галоўны ўдар па беларускай мове вырашылі нанесці ў сферы службовага справаводства, куды яе да гэтага памаленьку, асцярожна прасоўвалі палітыкі, чыноўнікі адраджэнскай загартоўкі. Цяпер у названай сферы айчынныя асімілятары чвэрылі тое, што некалі за Рэччу Паспалітай учынялі іх польскія, а за Расійскай імперыяй — рускія калегі. Тут дарэчы будзе сказаць, што і новай рэдакцыі Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь (1996 г.), у якой і рускай мове надалі статус дзяржаўнай з тым, каб гэтым выпхнуць з роднай хаты беларускую, акурат прынялі у год 300-годдзя ад часу вывядзення прапольскімі ўладамі Рэчы Паспалітай беларускай мовы з ужытку ў дзяржаўных канцылярыях. Лепшай нагоды, большай знявагі да беларускай мовы наўрад ці можна было б знайсці прэзідэнцкай вертыкалі.

Каб не так ужо прама ў вочы кідалася варварская расправа ўладных структур з родным словам тытульнай нацыі, імі супольна з афіцыйнай часткай інтэлігенцыі ўводзіўся вельмі хітры, звонку зусім дэмакратычны варыянт абслугоўвання службовага справаводства: любыя віды дакументацыі дазвалялася пісаць на беларускай альбо рускай мовах. Чыноўніцкі апарат разлічваў — і трэба сказаць не памыліўся! — што амаль усе службоўцы з-за высокай ступені русіфікацыі і хлюпкай нацыянальнай самасвядомасці ў якасці канцылярскай мовы абавязкова выберуць рускую дзякуючы дадзенаму ім праву ўсемагутным саюзам «альбо».

Любая выведзеная са службовага справаводства мова імкліва становіцца незапатрабаванай грамадствам. Асабліва гэта адчуваецца ў практыцы народнай адукацыі, якая заклікана рыхтаваць кадры для яго абслугоўвання. Ніякая такая сфера не будзе будаваць сваю дзейнасць на мове, што выведзена з абслугоўвання дзяржаўных органаў улады і кіравання, прадпрыемстваў і ўстаноў. Гэта толькі ў мастацкай літаратуры, розных жанрах культуры пэўны час могуць выкарыстоўваць выведзеную з афіцыйнага ўжытку мову, што, аднак, вельмі мала ўплывае не толькі на



захаванне этнакультурнай самабытнасці моўна абкрадзенага народа, але і самой гэтай мовы, бо рана ці позна не будзе каму чытаць напісаныя на ёй мастацкія, навуковыя, публіцыстычныя творы, падручнікі і дапаможнікі.

Пасля правядзення майскага рэферэндуму ў 1995 годзе ў краіне з зайздросным размахам, нечуванымі тэмпамі пачаў дабудоўвацца у чужым, варожым для яе стылі Дом русіфікацыі. Паколькі цяпер гэта рабілася за кошт уласных рэсурсаў, шмат часу не запатрабавалася. Першымі ў ім атрымалі самыя добраўпарадкаваныя, дыхтоўныя кватэры прадстаўнікі дзяржаўнага чыноўніцкага апарату — архітэктары і ідэолагі гэтага дурной памяці рэферэндуму. Ад першых жа дзён жыцця ў дзяржаўным Доме русіфікацыі яны сябе тут адчувалі куды лепш, чым у Нацыянальным акадэмічным тэатры Янкі Купалы, падчас выступленняў Нацыянальнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, вакальна-інструментальных ансамбляў «Песняры» і «Сябры», дзе яшчэ хоць трохі нешта жыве з нацыянальна-беларускага. Выклікае трывогу тое, што ім з-за страшэннага абмежавання сацыяльных функцый беларускай мовы з кожным годам усё менш і менш карыстаецца людзей. Што й ні кажы, даецца ў знакі навязаны ім сваёй жа ўладай дзяржаўны характар русіфікацыі.

Калісьці беларусаў пажыралі польскія і рускія асімілятары, уволю набіваючы свае вантробы чужой этнічнай стравай. Апошнія ж дзесяць гадоў з гакам беларуская нацыя, асабліва найбольш адукаваная частка яе, сама з'ядае сябе, што куды небяспечней, чым у першых двух відах асіміляцыі. Сёння аналагаў такога нацыянальнага самапаядання не знайсці на зямной кулі (паразумнелі народы!), акрамя размешчанай у цэнтры Еўропы Рэспублікі Беларусь.

Незвычайнай крыважэрнасцю ў дачыненні да ўласнага народа, асабліва яго маладых пакаленняў, вызначаецца закладзеная пры самым непасрэдным удзеле дзяржаўнага чыноўніцкага апарату сучасная сістэма адукацыі. Яму вельмі хутка ўдалося пасля майскага рэферэндуму 1995 года стварыць у ёй магутнае антыбеларускае кіраўнічае ядро. Не толькі з рэспубліканскага апарату, але і з усіх абласных, раённых (гарадскіх) упраўленняў народнай адукацыі былі «выпушчаны на волю» кіраўнікі, у якіх за душой мелася штосьці нацыянальна-беларускае. Цяпер яно ўжо зусім было не патрэбным, бо на парадку дня стаяла поўная русіфікацыя навучальна-выхаваўчага працэсу ва ўсіх звёнах народнай адукацыі. Яе кіраўнікі, абапіраючыся на прэзідэнцкую вертыкаль, на выдатна спраўляліся з вырашэннем гэтай задачы.

Сучасная сістэма народнай адукацыі цалкам знаходзіцца ў руках прарускай арыентацыі кіраўніцтва, якое мае самую вялікую падтрымку ад уладных структур як знізу, так і зверху. Намертва асядлаўшы гэтую этнаўтваральную сферу, яны ўсяляк абараняюць апошнюю ад уплыву нацыянальна-прагрэсіўных колаў грамадства (нават многім самым любімым народам пісьменнікам забаранілі сустракацца са школьнікамі), бо, відаць, ведаюць, што пра яе яшчэ некалькі стагоддзяў таму пісаў першы прэзідэнт Берлінскай акадэміі навук Готфрыд Лейбніц: «Аддайце мне выхаванне і, перш чым міне адно стагоддзе, я змяню аблічча Еўропы».Нашым жа дамарослым русіфікатарам трэба змяніць толькі аблічча Беларусі, якое з-за асімілятарскай палітыкі ўжо шмат што страціла са сваёй першароднай адметнасці і самабытнасці. Вярнуць іх народу можа толькі суцэльная беларускамоўная адукацыя. За восем-дзесяць гадоў яна змагла б узгадаваць столькі шчыра адданых нацыянальных патрыётаў, актыўных носьбітаў беларускай культуры, што краіне больш рэальна не пагражала б ні адна з формаў культурна-моўнай асіміляцыі, у т. л. русіфікацыя. Калі ў бліжэйшы час не спадзе панаванне рускага элементу ў навучальна-выхаваўчым працэсе, у абліччы нашых маладых пакаленняў вельмі цяжка будзе і пад лупу адшукаць штосьці сваё, нацыянальна-беларускае.

Адарваная ўладнымі структурамі ад нацыянальнага грунту адукацыя не спыніць выконваць ролю магільшчыка беларускай культуры, выпускаць у жыццё маладыя пакаленні, не здольныя быць яе не толькі актыўнымі, але і пасіўнымі носьбітамі да таго часу, пакуль не будзе будаваць свой навучальна-выхаваўчы працэс на беларускай мове. Сучаснае палітычнае кіраўніцтва і падуладны яму апарат Міністэрства адукацыі РБ не адважацца на такі нацыянальна-патрыятычны вычын, бо ў іх на першым плане зусім іншая мэта — русіфікацыя як найважнейшая перадумова стварэння супольна з Расіяй саюзнай дзяржавы.

Мэтанакіравана ажыццяўляючы русіфікатарскую палітыку, дзяржава не памылілася ў сваёй стаўцы на такую ўплывовую частку інтэлігенцыі, як журналісты. Каб стварыць ураджанне сапраўднай гуманнасці палітыкі дзяржаўнага беларуска-рускамоўнага двухмоўя, рэдакцыям афіцыйных беларускамоўных газет і часопісаў дазволілі частку плошчы адводзіць пад напісаныя па-руску тэксты, а рэдакцыям рускамоўнага перыядычнага друку, наадварот — пад беларускамоўныя тэксты. Не ўсе маглі прадбачыць, да якой бяды прывядзе гэтая задума. А вось вынаходнікі яе не сумняваліся, што перамога станецца за рускай мовай, да чаго абавязкова прыкладуць



брудныя рукі самі журналісты, паколькі адукацыю атрымалі ў асноўным на гэтай мове. Да таго ж яшчэ аўтары, з якімі даводзілася працаваць журналістам, куды лепш ведалі апошнюю, чым беларускую. Пасля майскага рэферэндуму яе прысутнасць у рускамоўным перыядычным друку не набыла нават сімвалічнага характару, у чым немалая заслуга журналістаў, а вось руская мова, не без удзелу такой катэгорыі інтэлігенцыі, магутнай плынню запаланіла беларускамоўныя газеты і часопісы. Неўзабаве ў некаторых з іх родная мова захавалася практычна толькі ў назвах саміх выданняў і паасобных рубрыкаў, у напісаных беларускімі аўтарамі мастацкіх творах. Шкада, што такую методу моўнай трансфармацыі ахвотна ўзялі на ўзбраенне, пры актыўным садзеянні мясцовых уладаў, раённыя газеты, галоўнымі чытачамі якіх з'яўляліся беларускамоўныя вясковыя падпісчыкі. Ад гэтага часу і на вёсцы, дзе спрадвеку маладыя пакаленні беларусаў узгадоўваліся паводле сваіх нацыянальных культурна-моўных традыцый, дзяржаўныя асімілятары супольна з адарванымі ад карэнных інтарэсаў Бацькаўшчыны журналістамі пачалі інтэнсіўна пашыраць сферу ўжывання рускай мовы ў мясцовай перыёдыцы.

Каб вызваліць зверху да нізу чыноўніцкі апарат, усю касту дзяржаўных ідэолагаў ад неабходнасці дасканалага валодання роднай мовай тытульнага народа, яе, не пытаючыся згоды ў людзей, адміністрацыйным шляхам вывелі з самага папулярнага ў краіне першага тэлеканала, пакінуўшы ў яго назве, нібыта на здзек, слова «Нацыянальны». Без аніводнага беларускага слова ён працуе на працягу ўсяго адведзенага яму часу: з 5 гадзін 30 хвілін раніцы да прыкладна дзвюх гадзін ночы. Небеларускае слова пануе на астатніх тэлеканалах краіны. Так ва ўчэпістых руках палітыкаў і журналістаў выдатнае вынаходніцтва чалавечага розуму — тэлебачанне — з належнай аддачай працуе не на карысць беларускай ідэі, а бездакорна служыць дзяржаўнай палітыцы русіфікацыі. Нават за савецкім часам яно так па-варварску, як сёння, не нішчыла рукамі журналістаў беларускую культурна-моўную адметнасць.

Пры падтрымцы ўладных структур цесна звязаным з імі носьбітам рускай культуры на Беларусі ўдалося істотна аслабіць нацыянальныя пазіцыі такога магутнага сродку ўплыву на духоўнае развіццё народа, як радыё. Яно не здраджвала беларускасці нават і тады, калі ў СССР камуністы інтэнсіўна праводзілі дурной памяці курс на збліжэнне і зліццё савецкіх нацый і народнасцяў. Затое айчыннаму чыноўніцкаму апарату ўдалося ў максімальнай ступені вывесці беларускасць з радыёперадач,

скіраваць іх на распаўсюджванне ў нашай краіне набыткаў рускай культуры, у т. л. мясцовай вытворчасці. Дзеля гэтага радыёжурналістамі выкарыстоўваюцца самыя разнастайныя прыёмы і метады. Прыклад паказвае Першы нацыянальны радыёканал. Слухаючы яго перадачы, часта можна стаць сведкай, як беларускамоўны вусны тэкст журналіста свядома разбаўляецца рускамоўным ілюстрацыйным музычна-песенным матэрыялам. Нацыянальнай арыентацыі ўдзельнікі гэтых перадач абавязкова выкарыстоўвалі б толькі беларускія музычна-песенныя матэрыялы. У нас жа ўсё атрымліваецца наадварот: яны нярэдка працэнтаў на 80–90 складаюцца з рускіх песень, прычым нават і тады, калі ў аснове перадачы ляжыць мясцовы беларускі сюжэт. І такіх перадач, дзе грашаць яўнай колькаснай перавагай рускага над беларускім у ілюстрацыйным музычна-песенным матэрыяле, нямала ладзіцца і на іншых каналах. Кіраўнікі ж гэтых сродкаў масавай інфармацыі маўчаць, бо не бачаць у такіх перадачах чагосьці такога, што не стыкавалася б з дзяржаўнай палітыкай русіфікацыі культуры Беларусі.

Выкарыстанне рускай мовы ў грамадскім жыцці Беларусі, асабліва ў такіх яго сферах, як службовае справаводства, народная адукацыя, культура, сродкі масавай інфармацыі, — гэта прамая дарога ў беспрасветную багну русіфікацыі. Свет, напэўна, здзіўляецца — і мае ўсе падставы, — што такую дарогу працярэбліваюць самі ўлады суверэннай Рэспублікі Беларусь, а не якая-небудзь суседняя ёй дзяржава.

Традыцыйна непрыхаваны, адкрыта русіфікатарскі характар дзейнасці сістэмы народнай адукацыі і сродкаў масавай інфармацыі, што з асаблівай сілай вызначылася пасля майскага рэферэндуму, істотна аблягчыў для дзяржавы здзейсніць у жаданай для яе ступені перадыслакацыю значнай часткі творчай інтэлігенцыі з беларускай на рускую культурна-моўную ніву. Такой перадыслакацыі вельмі добра паспрыяў і спрыяе магутны культурны ўплыў, у абсалютнай бальшыні выпадкаў зусім свядомы і мэтанакіраваны, непасрэдна самой Расійскай Федэрацыі. Наступствы русіфікацыі ад усяго гэтага вельмі небяспечныя і трагічныя. Няма аніякага перабольшання і памылковасці ў сцвярджэнні, што беларускі народ няўхільна набліжаецца амаль да поўнай заваёвы яго ўжо даўно здэфармаванага нацыянальнага духоўнага жыцця рускамоўнай культурай, чым, на вялікае гора, актыўна займаецца і значная частка мясцовай творчай інтэлігенцыі, маючы поўную падтрымку ад дзяржавы за такую калабаранцкую дзейнасць.

Ва ўладных структурах і ўзятых імі на службу ідэолагаў хапіла досведу і спрыту, каб адарваць ад працы на беларускі нацыянальны інтарэс



значную колькасць майстроў мастацкага слова. Роля гэтай катэгорыі інтэлігенцыі ў этностваральных працэсах не мае сабе роўных, а тым больш на Беларусі, дзе многія творцы ўжо не ў першым пакаленні працуюць у рэчышчы рускай культуры, асабліва ў яе звязаных з выкарыстаннем мовы пластах. Пасля майскага рэферэндуму, загнаўшага ў кут беларускую мову, усё менш і менш з'яўлялася ахвотнікаў пісаць на ёй усіх жанраў літаратурныя творы. Як ніколі, у моду пайшла руская мова. Каб стварыць для рускамоўных аўтараў спрыяльныя варункі, дзяржаўныя русіфікатары дапамаглі праціў—нікам нацыянальна-культурнага Адраджэння ўнесці раскол у Саюз беларускіх пісьменнікаў. З тых, хто пакінуў яго пасля пэўнай ідэалагічнай апрацоўкі і атрыманых ад улады абяцанкаў палепшыць сацыяльнае становішча, а таксама за кошт навічкоў на літаратурнай ніве, стварылі ў 2006 годзе дзяржаўнай арыентацыі Саюз пісьменнікаў Беларусі. Ужо ад самага пачатку ў ім на поўную моц запанаваў рускі фактар, стала магчымым да дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі прыцягнуць і значную колькасць майстроў мастацкага слова, з чым практычна не даводзілася сустракацца на працягу ўсяго перыяду існавання Савецкай Беларусі. Шырокі пласт беларускага грамадства вельмі ўсхваляваны тым, што пры самым актыўным удзеле дзяржавы адбылося ў асяроддзі пісьменніцкай інтэлігенцыі. Яе свядомы раскол на два лагеры — афіцыйны і неафіцыйны, — несумненна, не прынясе аніякай карысці беларускай мастацкай літаратуры, якая ўнесла непараўнальны ні з чым, найвялікшы ўклад у нацыянальнае самасцвярджэнне нашага народа, як родная маці ахоўвала яго ад рускай культурна-моўнай асіміляцыі. Мець жа сёння такую скіраваную на нацыянальнае сталенне беларусаў мастацкую літаратуру — гэта зусім не ў інтарэсах дзяржавы, бо каб яна па-сапраўднаму цаніла нацыянальнае прыгожае пісьменства, не вытурыла б беларускую мову са свайго службовага справаводства, не звяла б яе ролю да рабскага становішча ў сферы народнай адукацыі, культуры, электронных сродках масавай інфармацыі.

Хацелася б памыліцца, але лічу, што ўчынены пэўнай часткай літаратараў супольна з афіцыйнымі ўладамі падзел пісьменніцкай арганізацыі мае сваёй далёкай мэтай поўную ліквідацыю лішняй для дзяржавы беларускай мастацкай літаратуры. Сёння нібыта такога і не заўважаецца, бо ў апекаваны дзяржавай Саюз пісьменнікаў Беларусі ўваходзяць і таленавітыя, з багатай літаратурнай спадчынай аўтары. Але гэта сёння. А заўтра? Заўтра нашая нацыяразбуральная народная адукацыя ўзгадуе столькі

рускамоўных маладых людзей, што яны дыхнуць не дадуць тым, хто застанецца ў родным слове. З цягам часу паводле моўнага фактару суадносіны паміж літаратамі ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі складуцца аналагічныя тым, якія ёсць паміж беларускамоўнымі плынямі і рускамоўным масівам у сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школе. Умацаванню рускага фактару ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі садзейнічае заняцце ў ім самых высокіх пасад рускамоўнымі аўтарамі, што таксама адбылося не без удзелу дзяржавы.

Выпхнутая на задворкі афіцыйнага жыцця беларуская мова вельмі хутка пачала страчваць і без таго хісткія пазіцыі ў прафесійным тэатральна-музычным мастацтве, ролю якога ў фармаванні асобы чалавека, асабліва маладога ўзросту, ніяк нельга пераацаніць. Паколькі яно паслугоўваецца пераважна рускай мовай, шкода беларускаму інтарэсу наносіцца надзвычай вялікая. Змаганне нацыянальна-дэмакратычных колаў грамадства з уладамі за шырокі выхад на дзяржаўную сцэну беларускамоўных вакальна-інструментальных ансамбляў не дае належнага выніку, таму ім, як і раней, даводзіцца найчасцей працаваць у катакомбных умовах з параўнальна невялікай колькасцю гледачоў. Пачынаю ўсё больш пераконвацца ў тым, што афіцыйныя дзеячы ад культуры, так упарта спіхваючы яе ў рускае рэчышча праз абмежаванне сферы выкарыстання беларускамоўнага матэрыялу ў духоўнай творчасці, нейкім чынам пазнаёміліся з вершам нашага слыннага гісторыка, культурнага, грамадскага дзеяча Міколы Ермаловіча (прырода і паэтычным дарам не абдзяліла яго!) «Песнярам Беларусі», дзе ёсць такія радкі:

Не сатруць нас са свету,
Не заб'юць, не сагнуць,
Пакуль песні паэтаў
Беларускіх жывуць[1].

Каб такое не збылося, у дзяржаўным сектары культуры робіцца многае дзеля трымання ў загоне беларускамоўнай песні. У штовечаровай радыёперадачы Першага нацыянальнага канала «Вітаем, віншуем, жадаем» добра, калі з дзесяці песень прагучыць хоць адна беларускамоўная. Дык ці ж варта дзеля назвы такога далёкага ад беларускасці канала ўжываць слова «нацыянальны»? Куды больш пасавала б яму зусім процілеглае азначэнне.

[1] Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі. — Мінск, 2007. — С. 308.



Кіраўнікі рэспубліканскага штаба культуры, арганізатары «Славянскага базару» ў Віцебску і тут не знаходзяць законнага месца беларускай мове, хаця мерапрыемства ладзіцца не дзе-небудзь, а на зямлі самой Рэспублікі Беларусь дый пры тым у суверэннай дзяржаве. А не знаходзяць таму, што палітычным кіраўніцтвам краіны прынята ўсе звязаныя з славянскай супольнасцю мерапрыемствы абслугоўваць рускай мовай. Свая родная не цягне на такі высокі ўзровень. Ва ўдзельнікаў і гасцей «Славянскага базару» ў Віцебску фармуецца погляд на Беларусь, як на нейкую перыферыйную частку Расійскай Федэрацыі, што не толькі не засмучае, а нават радуе нашых дзяржаўнікаў.

Не толькі практычна цалкам рускамоўная адукацыя, у многім падобныя да яе ў моўным плане афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, але і сама ў значнай меры пабудаваная на рускіх стандартах культура ўзнеслі за апошнія гады беларускі народ на такую ступень русіфікацыі, на якой ён не знаходзіўся нават у самыя горшыя часы сваёй гісторыі. Ад гэтай бяды яго не выратуюць ніякія грамадскія арганізацыі, цалкам абгрунтаваныя спробы хоць на сямейна-бытавым узроўні падтрымліваць дарагую і любую беларускасць, бо ўсяму гэтаму ўпарта супрацьстаіць магутны, шырока разгалінаваны ў цэнтры і на месцы дзяржаўны чыноўніцкі апарат. Будучы сам дазвання зрусіфікаваным, ён і думкі не дапускае, каб у моўным плане ад яго адрознівалася насельніцтва. Канчатковае адарванне яго ад роднай мовы, нават і цаной поўнай страты этнакультурнай самабытнасці, — галоўная мэта дзяржаўных чыноўнікаў, якія, на вялікую бяду, сустракаюць такую неабходную ім падтрымку і з боку значнай часткі інтэлігенцыі, не выключаючы нават творчай. Вось у гэтым якраз і трэба бачыць прычыну татальнага звужэння сацыяльнай ролі беларускай мовы ў афіцыйным жыцці, рэдкага выкарыстання ў міжасобасных кантактах людзей і надзвычай дрэннага валодання ёю нават законнымі носьбітамі, не кажучы ўжо пра іншароднае насельніцтва краіны. Не спраўдзіліся прадказанні згаданага вышэй рускага навукоўца П. Бяссонава: «Пісьменнасць беларуская мае адно мінулае: за вуснаю моваю народнаю ўся будучыня»[1]. Пад магутным уздзеяннем празмерна працяглай мэтанакіраванай русіфікатарскай палітыкі царскай Расіі, СССР — БССР, сучаснай улады ўдалося намертва адарваць ледзь не ўвесь народ ад роднага слова і вымусіць размаўляць па-руску. Не памылюся ў сцвярджэнні, што зараз ім не валодае, не кары-

[1] Бессонов П. Белорусские песни. — С. LXIX.

стаецца абсалютная бальшыня інтэлігенцыі і практычна ўсе службоўцы дзяржаўнага і адміністрацыйна-гаспадарчага апарату. Затое цалкам не здзейснілася меркаванне П. Бяссонава датычна пісьмовай беларускай мовы. Яна жыве і нават развіваецца, узбагачаецца, але паколькі ў яе катастрафічна мізэрны лік носьбітаў, вялікіх спадзяванняў і на запатрабаванне грамадствам беларускай пісьмовай мовы не дужа багата.

Між тым, у сучасных дзяржаўных русіфікатараў хапае розуму, каб прадбачыць, што рана ці позна яны зусім заслужана будуць праклятымі нацыянальна адроджанымі, узмужнелымі ад вяртання да родных каранёў новымі пакаленнямі беларускага народа. І каб хоць трохі зменшыць сваю віну за разбурэнне культурна-моўных асноў яго духоўнага жыцця, некаторыя з русіфікатараў любяць публічна заяўляць пра сваю нібыта самую шчырую прыхільнасць да імі ж растаптанага беларускага слова. У якасці прыкладу можна спаслацца на такія словы з выступу і кіраўніка краіны А. Лукашэнкі 16 лютага 2008 года, г. зн. напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы, перад студэнтамі-журналістамі БДУ: «Сапраўды, мы ў школах пачалі менш увагі звяртаць на беларускую мову… Гэта наша мова. Яе няма ні ў рускіх, ні ў украінцаў. Беларускай мове быць, жыць, і мы павінны яе ведаць, добра ведаць». Усе свае публічныя запэўніванні ў любові да беларускай мовы палітыкі і ідэолагі выказваюць па-руску (толькі зрэдку можна пачуць слова «мова»), што лішні раз сведчыць пра іх няшчырасць, крывадушнасць, жаданне аслабіць намаганні нацыянальна-патрыятычных колаў грамадства сваім самаахвярным змаганнем выратаваць беларускую мову ад поўнага заняпаду, вярнуць ёй на практыцы сапраўдны статус дзяржаўнай. Неваладанне, невыкарыстанне сучаснымі дзяржаўнымі дзеячамі беларускай мовы ў грамадскім і прыватным жыцці не даюць падстаў ніводнага з іх называць сапраўдным нацыянальным лідэрам. Такі выключна рэдкі парадокс можна адшукаць толькі дзе-небудзь у нядаўна вызваленай ад каланіяльнай залежнасці краіне. У Еўропе, акрамя Рэспублікі Беларусь, такога ўжо даўно не назіраецца.

Калі б кіраўніцтва нашай краіны шчыра пажадала зрабіць яе па-сапраўднаму нацыянальнай дзяржавай, яно павінна было б смела і неадкладна ўзяць на сябе пачэсную ролю антырусіфікатара і найперш у моўным пытанні, бо без мэтанакіраванай, свядомай замены рускай мовы беларускай ва ўсіх сферах грамадскага жыцця няма іншага шляху выратаваць апошнюю ад поўнага заняпаду, а выратаваўшы, забяспечыць ёй не толькі юрыдычны, але і фактычны статус дзяржаўнай. Такія абмежавальнага характару захады ў дачыненні да рускай мовы ні ў якім выпадку не павінны разглядацца як якая-небудзь знявага або непашана да апошняй. Свядомае абмежаванне сацыяльных функцый абгрунтоўваецца тым, што ў выніку грубых парушэнняў у рэгуляванні міжнацыянальных адносін, а то і проста шляхам мэтанакіраванага правядзення асімілятарскага курсу ёй за кошт рэзкага звужэння сацыяльнай ролі беларускай мовы была забяспечана ў нас вельмі велізарная функцыянальная прастора. Каб такія страты беларуская мова панесла ад украінскай, польскай, англійскай ці іншых моваў, падобныя санкцыі, разумеецца, павінны былі б ужывацца і ў дачыненні да іх. Таму тут не будзе месца ніякай дыскрымінацыі рускай мовы. Такога роду абмежаванні яе сацыяльных функцый трэба разглядаць як заканамерную спробу нармалізацыі моўнай сітуацыі ў краіне, пра што кіраўніцтва дзяржавы, стаўшы на шлях нацыянальна-культурнага адраджэння, павінна было б своечасова, пераканаўча давесці людзям. На вялікую бяду, такога падыходу ў краіне не практыкуецца. Таму сённяшняе становішча беларускай мовы ў грамадстве не дае аніякіх падстаў на далейшае захаванне і развіццё беларускай нацыянальнай культуры на яе гістарычнай тэрыторыі. Калі на належны ўзровень не ўзнімем камунікатыўную функцыю роднага слова беларусаў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, Беларусь немінуча апынецца пад поўным панаваннем рускай культуры. І галоўную адказнасць за канчатковую русіфікацыю беларусаў будзе несці не іх творчая інтэлігенцыя, хаця ў гэтым і вялікая яе віна, а існы ў краіне дзяржаўны чыноўніцкі апарат, які дзеля сваіх вузкапрафесійных інтарэсаў рабочай мовай зрабіў рускую, а беларускую выкінуў на сметнік. Уладным структурам ніякімі ідэалагічнымі хітрыкамі не ўдасца даказаць народу, што не яны, а якіясьці іншыя сілы выступілі ў ролі магільшчыка беларускай мовы.

Даючы самую негатыўную характарыстыку сучаснай моўнай палітыцы беларускіх уладаў, тым не менш нельга не падкрэсліць і яе сусветна-гістарычнага значэння: яшчэ раз пацверджана, што ў краінах з адной тытульнай нацыяй нельга забяспечыць рэальнага існавання дзвюх дзяржаўных моваў, рана ці позна такі статус застаецца толькі за адной з іх, прычым неабавязкова прыроднай для дадзенай тэрыторыі. Ва ўмовах сучаснай Беларусі такі статус належыць рускай, што дасягнута праз адпаведную дзейнасць адарваных ад нацыянальных інтарэсаў уладных структур.

Звужэнне сацыяльнай ролі беларускай мовы і за кошт гэтага ўмацаванне пазіцый рускай — галоўная прычына заняпаду нацыянальнай культуры. Па сутнасці ў нашым афіцыйным, грамадскім і ў значнай ступені ў асабістым

жыцці па ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле чыноўніцкага апарату ўжо трывала ўсталявалася тыповая мадэль рускага культурнага развіцця, што баняўмольна вядзе да ліквідацыі этнакультурнай самабытнасці беларусаў з непазбежным выміраннем іх як адрознага ад іншых народа. Калі такі этнічны зыход ёсць запаветная мэта ўлады і прыцягнутай ёю на службу інтэлігенцыі, у т. л. і мастацкай, дык трэба прызнаць, што такая мэта на сёння з'яўляецца ледзь не стопрацэнтнай рэальнасцю.

У няроўным супрацьстаянні моцна парадзелых апошнім часам шэрагаў творцаў нацыянальнай арыентацыі разбуральнаму ўздзеянню рускай культуры на духоўнае жыццё Беларусі не толькі не дапамагае, а, наадварот, стварае дадатковыя цяжкасці праваслаўная царква. Знаходзячыся ў безагаворачным падпарадкаванні маскоўскаму патрыярхату, яна будуе сваю дзейнасць у поўнай адпаведнасці з рускімі гістарычнымі і культурна-моўнымі традыцыямі. Асаблівую зацікаўленасць праяўляе праваслаўная канфесія да ўзмацнення свайго русіфікатарскага ўплыву на маладыя, школьнага ўзросту, пакаленні — будучыню беларускай нацыі. Крайне рэдка здараецца, каб падведамнае праваслаўнай царкве выдавецтва выдала для іх хоць нязначную колькасць кніг на беларускай мове. Практычна ўся літаратура рэлігійна-асветніцкага характару трапляе ў рукі беларускіх дзяцей на рускай мове, што спрыяе адрыву іх ад роднага слова, змалку актыўна ўключае ў ганебны працэс русіфікацыі. Не мае сабе роўных у пастаўках дзеткам такіх кніг Барыс Ганага, вядомы сваёй працай на Беларускім радыё: вёў рускамоўныя перадачы з цыклу «Духоўная ніва». Ён аўтар кніг «Детям о вере», «Детям о Боге», «Детям о душе», «Готово ли сердце?», «Детям о молитве», «Будем, как дети», «Помыслы сердца» і інш. Калі б такія кнігі выйшлі ў свет на Разаншчыне ці дзе-небудзь у іншым кутку Расіі, гэтаму і сапраўды можна было радавацца. А ў нас, дзе рускае так моцна пануе над беларускім, вельмі многае з таго, што не на роднай мове дзяцей карэннага насельніцтва краіны, у тым ліку і кнігі на рэлігійныя сюжэты, не прыносіць карысці яе нацыянальнаму інтарэсу. Дзіўна, што гэтага ў свой час не захацела зразумець рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва», і ў інтэрв'ю Ірыны Тулупавай з Б. Ганагам (16 сакавіка 2007 г.) усяляк расхвальваліся яго названыя вышэй рускамоўныя кнігі, хаця і адводзяць яны дзяцей удалячынь ад іх роднага слова. Рэльефна акрэсленыя апошнім часам захады па адзяржаўленні праваслаўнай царквы не даюць аніякіх падстаў магчымага адыходу яе ад сваёй уласнай працяглай практыкі русіфікацыі беларускага народа. Кіраўніцтва гэтай самай масавай у краіне хрысціянскай канфесіі



ўсё яшчэ не гатовае прасіць у яго даравання за актыўны супольны ўдзел з царскімі ўладамі па пераўтварэнні Беларусі ў «истинно» рускі край. Балазе, што хоць касцёл усвядоміў сваю віну перад ёй і штосьці канкрэтнае робіць па беларусізацыі рымска-каталіцкага набажэнства.

Яўна пройгрышную, абсалютна тупіковую для культуры Беларусі сітуацыю з-за дамінавання тут рускага фактару, як толькі могуць утойваюць ад народа дзяржаўныя ідэолагі. Ніхто не даводзіць, што з усіх формаў заваёвы самая небяспечная — культурная, бо яна вядзе да поўнай страты свайго этнічнага аблічча, пераўтварае ў нейкую непрыглядную бесструктурную масу. Пры эканамічнай заваёве народ можа зведваць сур'ёзныя цяжкасці з задавальненнем сваіх сацыяльных патрэбаў, пры ваеннапалітычнай — не мець дачынення да ўдзелу ў працы органаў дзяржаўнай улады і кіравання, але ў першым і другім выпадках ён усё ж захоўвае сваё нацыянальнае «я». Зразумела, калі сам не выракаецца ад родных каранёў. А вось пры культурнай заваёве народа — ён ужо нішто, засіміляваная безэтнічная маса, не здольная да самабытнага жыцця, гной для таго, хто духоўна запанаваў над ім. Зусім іншае адбываецца, калі народ пры любой форме заваёвы працягвае жыць, развівацца ў сваім культурна-моўным рэчышчы. Калі ж яшчэ культура такога народа вышэй, чым у заваёўніка, дык можа здарыцца такое, што ён растворыцца ў асяроддзі пакоранага насельніцтва, страціць сваю этнічную адметнасць. Менавіта такое адбылося з паволжскімі балгарамі пасля ўварвання на тэрыторыю сучаснай Балгарыі, жыхары якой знаходзіліся на намнога больш высокай ступені культурнага развіцця за няпрошаных гасцей. Ці не пераконвае гэта нас, беларусаў, моцна трымацца за сваю нацыянальна-культурную спадчыну і ладзіць, развіваць сваё духоўнае жыццё толькі на ўласных прыродных пачатках, каб не стаць ахвярай сучаснай русіфікацыі, а пазней яшчэ мо і якой-небудзь іншай формы асіміляцыі? Пара ўсім нам добра ўсвядоміць вялікую шкоду ўчыненага дзяржавай прымусу над беларусамі сядзець у аднначассе на двух крэслах.

Глыбока загнаны ўсіх часоў дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкай у беларускі нацыянальны арганізм чужародны дух перашкаджае людзям зразумець увесь трагізм іх становішча і змабілізавацца на яго рашучае пераадоленне. Сучасныя пакаленні беларусаў з'яўляюцца ў аснове сваёй маўклівымі, пасіўнымі, бяздзейнымі сведкамі самай небяспечнай і пагрозлівай за ўсю айчынную гісторыю асіміляцыі іх прыроднай культуры. Раней, нягледзячы на зусім дасканалую і тонкую палітыку паланізацыі і

русіфікацыі, наша культура захоўвалася хоць у сваім фальклорным статусе на вёсцы, дзе спрадвеку жыла абсалютная бальшыня беларускага этнасу. Нібыта ведаючы пра захаваўчую для нацыянальнай культуры ролю вёскі, пэўныя ўладныя структуры за апошнія дзесяцігоддзі пастараліся выпампаваць з яе ў горад амаль усе маладыя, здаровыя сілы, дзе іх само жыццё бязлітасна асімілявала і асімілюе. Да таго ж зараз ад такіх небяспечных дэнацыяналізацыйных працэсаў застаецца не вольнай і сама вёска. Калі на сёння што-небудзь і захавалася ў ёй з нацыянальнага, адметнага, дык яно ўсё ж бурыцца пад магутным напорам такіх дзейсных рускамоўных чыннікаў, як літаратура, перыядычны друк, радыё, тэлебачанне, кіно. Зусім не выпадае назваць нацыянальна беларускай і наяўную ў сельскай мясцовасці сістэму адукацыі.

Адным словам, у сучасным жыцці беларусаў няма нічога такога трывалага, устойлівага, каб нацыянальна арыентаваныя колы грамадства, абапершыся на яго, маглі б выратаваць гэты славянскі народ ад этнічнага вымірання, тым больш, што ў многім жа яму садзейнічае і сама палітыка дзяржавы Беларусь. Далей праводзіць такі жорсткі русіфікатарскі курс крайне небяспечна, бо народ абавязкова — і ўжо даволі хутка — пераўтворыцца ў бесхрыбетную этнічную масу, здольную толькі на колькаснае папаўненне суседніх яму нацый. Але хутчэй за ўсё такога курсу непахісна будуць трымацца дарэшты зрусіфікаваныя дзяржаўныя чыноўнікі, калі ў іх не з'явіцца масавая, магутная, здаровая нацыянальна самасвядомая апазіцыя. Праўда, іншым разам заўважаюцца станоўчыя праявы ў адстойванні беларусамі свайго нацыянальнага «я», асабліва сярод дэмакратычна настроенай моладзі. Каб не дапусціць масавага дзейснага характару такіх праяў сярод маладых пакаленняў, дзяржава без асаблівых цяжкасцяў знаходзіць у сабе сілы супрацьстаяць ім і не збіраецца збочваць з русіфікатарскага курсу.

Ад поўнай нацыянальнай дэградацыі беларускі народ не могуць выратаваць толькі адзінкавыя станоўчыя праявы на ніве культурнага адраджэння. Дзеля дасягнення гэтай запаветнай мэты патрэбна адпаведная дзяржаўная палітыка, якая адсутнічае і яшчэ не вядома ці з'явіцца яна калі-небудзь на свет. Мы ні ў якім разе не павінны недаацэньваць трагізму сучаснага беларускага нацыянальнага жыцця, калі дзесьці ўбачым у ім нейкія праблескі пазітыўнага характару. Трэба добра ўсвядоміць сабе, што магутны, шматгаліновы рускамоўны чыноўніцкі апарат проста так не адмовіцца ад сваёй русіфікатарскай палітыкі, якая дае яму надзею



пры неабходнасці займець за гэта самую featured рознабаковую падтрымку ад кіраўніцтва Расіі. Яно ж вельмі пільна адсочвае стан рускай культуры і мовы на постсавецкай прасторы і як толькі можа садзейнічае захаванню ці нават умацаванню іх пазіцый, як гэта робіцца на Беларусі пры самым актыўным удзеле яе ўладных структур.

Асабліва стараецца прэзідэнцкая вертыкаль РБ не пусціць яе родную мову ў арганізацыі і ўстановы Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі (БРСМ). Куды лагічней было б называць яго Саюзам рускамоўнай моладзі Беларусі (СРМБ), паколькі беларускую мову ён зусім не выкарыстоўвае ў сваёй дзейнасці. У такой ступені роднага слова не цураўся нават камсамол савецкай Беларусі. Больш за тое, нават і створаны у чэрвені 1943 года пад эгідай нямецка-фашысцкіх акупантаў «Саюз беларускай моладзі» (СБМ), г. зн. у час, калі дзве таталітарныя дзяржавы паставілі на карту само біялагічнае выжыванне беларускай нацыі. Аднак і ў гэтых экстрэмальных умовах яе маладыя генерацыі не толькі не адрынулі, а, наадварот, усяляк шанавалі і баранілі родную мову не ў прыклад сучаснаму афіцыйнаму БРСМ. У трэцім запавеце «Дзесяці запаветаў юнака і юначкі» (ліпень 1943 г.) знаходзім такую прыдатную на ўсе часы фармулёўку: «Шануй сваю родную мову, родныя песні і казкі і дбай аб разьвіцьці і пашырэньні беларускае культуры»[1]. Цяперашнія жрацы русіфікацыі робяць усё, каб беларуская моладзь і найперш сябры БРСМ жылі паводле рускіх культурна-моўных традыцый, знаходзіліся ў першых шэрагах прыхільнікаў палітычнай інтэграцыі з Расіяй, што будзе азначаць поўнае растварэнне беларусаў у асяроддзі нашмат большага за іх па колькасці рускага народа. Усяму гэтаму няма больш трапнага азначэння, як беларускі парадокс.

Сусветны вопыт дае процьму пераканаўчых прыкладаў, што жыццё таго ці іншага народа пераважна ў чужым культурна-моўным полі рана ці позна вядзе не толькі да немінучай страты яго этнічнай асобнасці, але і зараджэння ў апошняга рабскай псіхалогіі. Ён не ўяўляе свайго існавання, як толькі ў форме поўнай падпарадкаванасці той краіне, чые духоўныя каштоўнасці спажывае. І што характэрна, такімі нявольніцкімі рысамі ў найбольшай ступені заражаюцца самі дзяржаўныя грамадска-палітычныя дзеячы, блізкая да іх частка інтэлігенцыі. Такімі адарванцамі ад нацыянальных каранёў кішма кішыць сучаснае беларускае грамадства.

[1] Туронак Юры. Людзі СБМ. — Вільня, 2006. — С. 179.

Іх зусім не хвалюе, што ваенная вучэльня ў Мінску для юнакоў носіць імя рускага генералісімуса Аляксандра Суворава, а не праслаўленага ў бітвах з крыжакамі палкаводца Давыда Гарадзенскага ці гетмана найвышэйшага Вялікага Княства Літоўскага, кіраўніка беларуска-літоўскага войска ў пераможнай для нас Аршанскай бітвы 1514 года Канстанціна Астрожскага. Носьбітам рускай культуры ў нашай краіне, нават і беларускага паходжання, ніколі не стукне думка, чаму на шыльдах многіх гарадскіх вуліц стракацяць імёны рускіх дзяржаўных дзеячаў, пісьменнікаў, кампазітараў, навукоўцаў і нідзе не трапляюцца на вочы тыя, хто стварaў Беларускую Народную Рэспубліку, вёў у лістападзе–снежні 1920 года самаахвярнае змаганне за незалежнасць Бацькаўшчыны ў шэрагах слуцкіх паўстанцаў.

Як бачым, арыентацыя на пераважнае спажыванне рускай культуры ідзе на вялікую шкоду ўсяму роднаму беларускаму. Многія беларусы пачалі не толькі карыстацца мовай усходняга суседа, спяваць створаныя ім песні, танчыць пад яго дуду, але і сталі абыякавымі да ўсяго свайго, бацькоўскага, жывуць, паводзяць сябе насуперак здароваму нацыянальнаму сэнсу, карэнным інтарэсам Бацькаўшчыны. Несумненна, найбольш за ўсё ёй прычыняецца шкоды таму, што краінай кіруюць, ідэалагічна, духоўна ўздзейнічаюць на масы асобы, якія не ведаюць ці свядома ганьбяць ролю нацыянальнага фактару ў культурна-моўным жыцці. Асабліва шмат праклёццяў ім будуць адрасаваць новыя пакаленні беларусаў за пераўтварэнне ўсёй сістэмы народнай адукацыі ў наймагутнейшы ў айчыннай гісторыі рэактар русіфікацыі. Паводле сваіх руйнавальных смяротных вынікаў ён для беларускага народа больш небяспечны, чым Чарнобыльская катастрофа.

Будучы мэтанакіравана адарванымі дзяржавай ад сваёй роднай культуры і мовы і вымушаныя жыць такога роду рускімі адпаведнікамі, многія беларусы не могуць вызначацца здароваю нацыянальнаю самасвядомасцю, ад чаго краіна нясе незаменныя страты, у тым ліку і дэмаграфічныя. Даўно заўважана, што хворыя на нацыянальны нігілізм людзі вельмі абыякавыя да лёсу свайго народа і могуць у пошуках асабістага шчасця кінуць Бацькаўшчыну ў самую цяжкую для яе часіну і, наадварот, хто моцна, арганічна інтэграваны ў яе (Бацькаўшчыны) родную культурна-моўную стыхію, застаецца дома і тады, калі знаходжанне ў ім звязана з неверагоднымі цяжкасцямі.

З усіх краін Еўропы толькі на Беларусі цёмныя сілы вядуць шкодны эксперымент па пераўтварэнні тытульнай нацыі ў носьбіта дзвюх культур: уласнай і рускай, бо, каб у ім было штосьці перадавое, прагрэсіўнае, ён з адзінкавай на дадзеным кантыненце з’явы хутка перарос бы ў масавую. Такога мы не назіраем у практыцы рэгулявання культурных працэсаў. Ужо адно гэта не можа не насцярожваць у першую чаргу нашай творчай інтэлігенцыі, а разам з ёю палітыкаў і дзяржаўных ідэолагаў. Каб паралельнае суіснаванне дзвюх культур у краінах з адным тытульным народам спрыяла яго духоўнаму прагрэсу, Францыя ўжо даўно расчыніла б насцеж дзверы для пранікнення на сваю тэрыторыю англійскай культуры, Польшча — нямецкай, Германія — рускай, Іспанія — італьянскай і г. д. Нічога падобнага не робіцца ў краінах з высокаразвітымі нацыянальнымі культурамі. Відаць, таму і належаць яны да такой катэгорыі, чаго ніяк не скажаш пра дзвюхкультурную Беларусь, якая, і стаўшы палітычна незалежнай, не знаходзіць у сабе сілы забяспечыць тытульнаму народу прыстойныя ўмовы для безасіміляцыйнага існавання. Яе кіраўнікоў і абсалютную бальшыню творчай інтэлігенцыі нікольк не хвалюе, што пры наведванні расіянамі Беларусі, яны, не ўтойваючы радасці, усклікаюць: «Здесь Русь! Здесь Руссю пахнет!» Ці ж нам такая ацэнка патрэбная? Хаця па сутнасці яна зусім аб’ектыўная, справядлівая, бо ў нашым культурным жыцці і сапраўды рускае пераважае над беларускім. Дзіўнага тут ні на кроплю няма. Дзеля ўсталявання такога дысбалансу ў культурным жыцці Беларусі больш за дзве сотні гадоў папрацавалі і працуюць яшчэ сёння носьбіты чужых ёй духоўных каштоўнасцяў. Самае трагічнае тут бачыцца ў тым, што такой руйнавальнай дзейнасцю займаліся і займаюцца і прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі беларускай нацыянальнасці. Іх агульнымі намаганнямі з аселымі ў нашай краіне людзьмі іншых нацыянальнасцяў яе культурнае аблічча да такой ступені здэфармавана, што ніхто не адважыцца, каб не схлусіць, заявіць: «Тут Беларусь! Тут Беларуссю пахне!» А менавіта такая ж Беларусь і патрэбная славянскай цывілізацыі, усяму прагрэсіўнаму чалавецтву. І Беларусь ад таго часу, як стала палітычна суверэннай, магла б значна наблізіцца да такога жаданага статусу, каб, пачынаючы з 1991 года, створаныя на яе зямлі духоўныя каштоўнасці ў максімальнай ступені адпавядалі нацыянальным культурна-моўным стандартам. Шкада, што на гэта не хапіла розуму ні ў дзяржаўнага кіраўніцтва, ні ў элітарных колах творчай інтэлігенцыі. І ў незалежнай Беларусі яны прыярытэт аддаюць чужой, а не сваёй нацыянальнай культуры. Зусім іншымі шляхамі развівалася і развіваецца на постсавецкай прасторы культура ўсіх астатніх краін. Усяму гэтаму ніяк нельга не пазайздросціць, бо ў нас жа не без актыўнага масавага ўдзелу саміх беларусаў на іх зямлі руская культура так трывала

ўсталявалася, што яе рэальны стан мовай хіміі можна вызначыць як насычаны раствор у духоўным жыцці Беларусі. Няспынная этнічная эрозія яго хвалюе толькі нязначную частку нацыянальна самасвядомых людзей і застаецца зусім па-за ўвагай кіраўніцтва дзяржаўным сектарам культуры.

Суверэнная Беларусь нічога не зрабіла, і наколькі вядома аўтару гэтых радкоў, нічога не збіраецца рабіць дзеля павышэння прэстыжнасці нацыянальнага фактару ў сваёй культуры. Яна як стаяла, так і працягвае стаяць на галаве. Нельга прывесці аніводнага канкрэтнага прыкладу абмежавання рускага ўплыву на культуру з тым, каб хоць трохі павысіць у ёй ролю нацыянальна-беларускага. Хвалюе, што да ўсяго гэтага так прыцерлася творчая інтэлігенцыя, што ў яе амаль адсутнічаюць сур'ёзныя намеры паправіць, усталяваць правільныя суадносіны паміж беларускім і рускім у жыцці. Каб штосьці станоўчае ў гэтым зрабіць, патрэбны абавязкова адміністрацыйныя захады, бо абсалютная бальшыня сучаснай інтэлігенцыі штодня вельмі пераканаўча засведчвае сваю поўную няздольнасць тварыць па-беларуску. Уся бяда толькі ў тым, што такія крайне неабходныя, наспелыя захады не пагодзіцца прыняць прэзідэнцкая вертыкаль з-за адсутнасці ў яе выразнага нацыянальнага падыходу да развязвання дадзенай праблемы. Не возьмецца за яе і якая-небудзь больш нізкага рангу ўладная структура. Сапраўднае зачараванае кола, ад чаго толькі гіне беларуская нацыянальная культура.

Усяму гэтаму было б хоць нейкае апраўданне, калі б улады, занятыя ў першую чаргу развязваннем далёка не простых пытанняў эканамічнага развіцця краіны, стварэння адзінай з Расійскай Федэрацыяй саюзнай дзяржавы, стаялі ў баку ад рэгулявання культурных працэсаў. Увогуле на практыцы такога не назіраецца, таму было б крайне несправядлівым, памылковым абвінавачваць дзяржаву, што яна зусім ці нібыта недастаткова займаецца развіццём культуры. Займаецца, але ўся бяда ў тым, што без уліку нацыянальнага інтарэсу. Так, Палац рэспублікі пабудаваны па ініцыятыве дзяржавы, але яе зусім не цікавіць, якое месца ў мерапрыемствах гэтай установы адводзіцца беларускай нацыянальнай культуры. Такую абыякавасць дзяржавы да нацыянальнага ў культуры ўмела выкарыстоўваюць шматлікія праціўнікі і нядобразычліўцы існавання на Беларусі адметнага самабытнага духоўнага жыцця. Калі прааналізаваць з нацыянальнага пункту гледжання дзейнасць Палаца рэспублікі, дык яна больш скіравана на прапаганду, сцвярджэнне ў краіне рускай, чым беларускай культуры, таму гэтую ўстанову можна разглядаць не толькі ў якасці



цэнтра культурнага жыцця краіны, але і сродку яго дэнацыяналізацыі ў даўно ўсталяванай у нас форме русіфікацыі. Зразумела, у мерапрыемствах Палаца рэспублікі павінен прысутнічаць рускі фактар, як, скажам, украінскі, польскі, нямецкі, англійскі і іншыя, але панаваць у іх павінна беларускасць, тады яна не будзе тут на становішчы беднай папялушкі. У беларускай нацыянальнай культуры даволі багаты патэнцыял, каб быць Гаспадыняй у Палацы рэспублікі.

З гэтага галоўнага культурнага цэнтра краіны не могуць не браць прыкладу калектывы рангамі ніжэй. Сённяшні рэпертуар шырокавядомых інструментальна-вакальных ансамбляў і «Песняроў», і «Сяброў» дазваляе з поўнай падставай называць іх адпаведна «Певцами» і «Друзьями». Апошнімі гадамі не сустрэнеш, каб аб'явы пра іх канцэрты пісаліся па-беларуску. Так, афіша прызначанага на 9 снежня 2006 года ў Палацы рэспублікі выступлення салісткі ансамбля «Сябры» Алесі мела тэкст: «Вместе со своей страной».

Сучасная дзяржаўная машына істотна адстае ад таго, што некалі рабілі ўлады маладой Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў інтарэсах нацыянальнай культуры свайго тытульнага народа. Ужо літаральна праз паўгода, як другім разам была абвешчана дзяржаўная незалежнасць БССР (31 ліпеня 1920 г.), распачала ў лютым 1921 года плённую дзейнасць у галіне нацыянальнай культурна-моўнай палітыкі Навукова-тэрміналагічная камісія, на базе якой у студзені наступнага года быў створаны Інстытут беларускай культуры. Сёння з імі не можа параўнацца па ўкладзе ў нацыянальную культуру аніводная ўстанова і арганізацыя. А тады ж быў час страшэннай пасляваеннай разрухі!

Пройдзены ў XXI стагоддзі ўжо і не такі кароткі адрэзак часу выразна выявіў поўнае нежаданне палітычнага рэжыму будаваць сваю палітыку ў галіне культуры ў беларускім нацыянальным рэчышчы. Дзяржава нічога не зрабіла па наданні нацыянальнага характару народнай адукацыі, асабліва такім важным яе звёнам, як вышэйшая і сярэдняя спецыяльная школа. З-за непамернага дамінавання рускай культуры, да чаго ў масавым парадку далучаюцца і мясцовыя творцы, не толькі не ўтрываліўся, а, наадварот, яшчэ больш занядужаў нацыянальны патэнцыял духоўнага жыцця краіны. Яго толькі з вялікай доляй умоўнасці можна назваць беларускім. Абсалютна нічога не зроблена па павышэнні сацыяльнай ролі беларускай мовы. З лёгкай рукі дзяржаўнага чыноўніцкага апарату яна ледзь не спрэс выведзена з афіцыйнага выкарыстання і заменена рускай. Гэтыя

і іншыя сур'ёзныя хібы дзяржаўнай нацыянальна-культурнай палітыкі стрымлівалі і стрымліваюць кансалідацыйныя працэсы беларускага грамадства. Яго культурна-моўная раздвоенасць на дзве часткі — беларускую і рускую, — хаця і не прывяла да канфліктаў, але, як нішто іншае, вельмі негатыўна ўплывае на нацыянальную самасвядомасць. Сучасная Беларусь, нягледзячы на сваю суверэннасць, незалежнасць, нясе велізарныя этнічныя страты з-за нежадання не дужа добра дасведчаных у тонкасцях і складанасцях нацыянальна-культурнага жыцця палітыкаў прыслухацца, крытычна асэнсаваць, што пісалі па дадзенай праблеме слынныя айчынныя навукоўцы. Не думаю, што нашыя высокія дзяржаўныя дзеячы пайшлі б на жорсткую, злачынную расправу з галоўным духоўным набыткам краіны — беларускай мовай, — калі б яны зазірнулі ў невялічкую кніжку акадэміка Яўхіма Карскага (1861–1931) «Беларускі народ і яго мова» і на старонцы 67 прачыталі такія словы: «Калі асобныя члены… народнасці па той ці іншай прычыне трацяць матчыну мову, яны перастаюць разумець сваю далучанасць да дадзенага народа. Разам з чужой мовай яны прымаюць чужыя звычкі, уклады і для свайго народа з'яўляюцца страчанымі…» Таму ніколькі не здзіўляе, што сёння многім у чужой мове беларусам вельмі цяжка ўсведамляць сваю прыналежнасць да гэтай этнічнай супольнасці, а яшчэ цяжэй жыць паводле яе унутранай прыроды. З-за заганнай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі яны не валодаюць і не карыстаюцца роднай мовай, павінны жыць набыткамі рускай, а не сваёй уласнай культуры. Больш чым дастаткова прычын беларусаў рускай культуры не называць і рускімі, хаця такое ўжо не раз сыходзіла з вуснаў высокага рангу палітыкаў, асабліва вялікіх прыхільнікаў адзінай сумеснай з Расіяй саюзнай дзяржавы. У такіх неспрыяльных умовах існуе рэальная пагроза масавага вяртання людзей у незалежнай ад народа дзяржаве Беларусь да колішняй абразлівай саманазвы «тутэйшыя».

Моцна занятыя давядзеннем палітыкі русіфікацыі да жаданага канца чыноўнікі робяць усё, каб гэтай злачыннай справе працягвала, як і раней, добра служыць скалечаная і за царом, і за саветамі тапанімія. І сёння яна больш пасуе любой адміністрацыйнай адзінцы еўрапейскай часткі Расійскай Федэрацыі, чым суверэннай Рэспубліцы Беларусь. Асабліва перашкаджаюць беларусам адчуць сваю этнічную адметнасць ад рускіх назвы-персаналіі гарадскіх вуліц, паркаў, сквераў, бульвараў. У такіх назвах на долю рускіх асобаў, прычым і тых, хто добра прыклаў руку да русіфікацыі нашага краю, прыпадае прыкладна 75–80 працэнтаў. Імёны



дзеячаў рускага народа ў большасці выпадкаў носяць прадпрыемствы і ўстановы, а сваіх выбітных людзей улады наўмысна трымаюць у забыцці. Разлічваць, што ў такіх варунках шараговым беларусам вельмі лёгка правільна вызначыцца з прыналежнасцю да сваёй нацыянальнасці, няма важкіх падстаў. Праўда, дзяржаўныя ідэолагі настойліва пераконваюць людзей, што паўнавартаснымі беларусамі можна быць і цураючыся роднай культуры і мовы, не ведаючы айчыннай гісторыі, што для ўсяго гэтага дастаткова і толькі адных рускіх культурна-моўных каштоўнасцяў, у т. л. і з разраду тапаніміі.

Карацей кажучы, да якога аспекту дзяржаўнай палітыкі ў сферы культуры не прыглядзься, скрозь выразна бачыцца яе русіфікатарскі характар, але асабліва ў пытаннях афіцыйнага выкарыстання мовы, дзейнасці ўстаноў адукацыі. І хоць пра гэта вышэй ужо пісалася, яшчэ раз хачу падкрэсліць: пакуль у нас будзе функцыянаваць толькі руская вышэйшая і сярэдняя спецыяльная школа, датуль у беларускай нацыянальнай культуры не з'явяцца нармальныя варункі не толькі для развіцця, але нават і для захавання на яе сучасным узроўні. Гэта вельмі добра ведаюць праваднікі дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі і таму так упарта стараюцца не пусціць беларускую мову ў навучальна-выхаваўчы працэс усіх тыпаў навучальных устаноў і асабліва вышэйшых. Не дырэктары агульнаадукацыйных школ, а кіраўніцтва Міністэрства адукацыі РБ, прэзідэнцкая вертыкаль нясуць адказнасць перад краінай, што ў пачатковых класах на вывучэнне рускай мовы адведзена ў два разы больш гадзін, чым на родную беларускую. Ці ж гэта не самая пачварная форма дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі маладых пакаленняў тытульнай нацыі?

Што будучае беларускай нацыянальнай культуры напрамую залежыць ад беларускамоўнай адукацыі, не можа не ведаць нацыянальна арыентаваная частка творчай інтэлігенцыі. Таму не можа не здзіўляць яе пасіўнасць у змаганні, а дакладней: адсутнасць усялякіх практычных дзеянняў па пераадоленні разбуральнага ўплыву рускамоўнай адукацыі на беларускую нацыянальную культуру. Ствараецца ўражанне, што такая частка інтэлігенцыі хоча ў гісторыі духоўнага развіцця краіны забяспечыць за сабою права называцца апошняй з усіх пакаленняў творцаў, якім яшчэ пашчасціла хоць трохі папрацаваць у родным культурна-моўным рэчышчы.

Па абыякавасці значнай часткі творчай інтэлігенцыі да беларускамоўнага пласта ў культурным жыцці ад яе не толькі не адстае, а, наадварот,

выйшла наперад кіраўніцтва гэтай этнаўтваральнай сферы дзейнасці чалавека. Не выключэнне тут і сам рэспубліканскі апарат Міністэрства адукацыі. Як па віне самага верхняга эшалону прэзідэнцкай вертыкалі беларускую мову вывелі з усіх відаў справаводства рэспубліканскіх, абласных, мясцовых органаў улады і кіравання, так па віне кіраўніцтва гэтага апарату ёй давялося амаль цалкам пакінуць кабінеты яго структурных аддзелаў. Крыху пазней такое вытуранне беларускай мовы са службовага справаводства ўчынілі ў падведамных Міністэрству адукацыі ўстановах і арганізацыях. Аналагічным чынам «развязала» моўную праблему Міністэрства культуры РБ. А гэта ж акурат тыя міністэрствы, якім належыць знаходзіцца на правым флангу беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. На практыцы ж яны з’яўляюцца душагубамі гэтай высакароднай нацыянальна-палітычнай місіі. Яшчэ ніколі дзяржаўная палітыка русіфікацыі беларускага народа не ажыццяўлялася ў такой агіднай форме, такімі гнюснымі метадамі, як сёння. Ідэолагі, непасрэдныя праваднікі дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі не баяцца ні Бога, ні суда гісторыі, ні людскога пракляцця. Прадбачанне хуткай этнічнай смерці беларускага народа толькі надае ім моц. Але пакуль яшчэ не надышла такая канчына, ці не лепш адумацца яго ўсіх рангаў магільшчыкам? Дарэчы, у іншых народаў у падобнай сітуацыі не раз прасвятляліся галовы і палітыкаў, і іх служак з ліку ідэолагаў, інтэлігенцыі.

# ЗМЕСТ

